


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



→8

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 11 (2913) Год LVII | Беласток, 11 сакавіка 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Найлепшая кніга - Міхася АНДРАСЮКА

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

**„Беластоцка-падляшска-тутэйшыя” намінанты — так назвалі адбор кніг з дванццаці пяці заяўленых на дванццаць першы выпуск Літаратурнай узнагароды прэзідэнта горада Беластока імя Веслава Казанэцкага за 2011 год. Гэтай узнагародай вылучаюцца найлепшыя кнігі года, якіх тэматыка вяжацца з Беластокам ці рэгіёнам або такія, якіх біяграфія аўтараў звязана з Беластокам, а іх клімат і рэаліі лучацца з рэгіёнам. Узнароджваюцца найлепшыя кнігі з усіх літаратурных жанраў (з выключэннем анталогій і апрацовак). Рэгламент узнагароды з гадамі мяняўся — ад найлепшай паэтычнай кнігі, да падзелу на катэгорыю паэзіі і прозы, пасля адмаўлення ад гэтага падзелу. Да дванццатага выпуску пераможцамі конкурсу былі 16 паэтычных тамоў і толькі 4 творы прозай. Сярод узнагароджаных у мінулых гадах аўтараў былі м.інш. Эдвард Рэдлінскі родам са Страблі, Уладзімір Паўлючук родам з Рыбалаў, Ігнат Карповіч — са Случанкі.**



Сёлета намінантамі былі „Biały koń” Міхася Андрацюка, „Książka meldunkowa” Яна Камінскага, „Śladami twoich stóp” Камілі Пшыходзень, „Samosiejki” Тэрэсы Радзевіч ды „Kulki rtęci” Войцеха Рашкоўскага (дзве апошнія выдадзены па-за Беластокам, высока ўзнагароджаныя ў Польшчы). Раней вельмі часта закідвалі членам Капітула ўзнагароды імя Казанэцкага, што моцна на іх рашэнне ўплывала тое, што намінаваная кніга, выдадзеная часта ў вялікім, прэстыжным выдавецтве, заззяла ўжо на агульнапольскім небасхіле, а кніжкі, якія паявіліся ў нішавых выдавецтвах не маюць шанцаў. У гэты раз і ў намінацыю трапілі выданні, дарэчы, знакамітыя, напрыклад з кракаўскага „Знака”. Дыспрапорцыя ўзнагароджаных „паэтаў” і „пісьменнікаў” паказвала не так на прэферэнцыі капітула, як на недастатак на мясцовым рынку прозы, прынамсі да гэтага часу.

Капітул, сярод членаў якіх вядомыя літаратары, літаратуразнаўцы, крытыкі і ўдава Галіна Казанэцкая, у гэтым выпуску не мела праблем з выбарам, хоць, як адзначыў старшыня журы Дар'юш Кялчэўскі, сёлета бачыўся вельмі высокі ўзровень усіх пяці кніг-фіналістаў і ўсе мелі роўныя шанцы: „Гэта самыя цікавыя кнігі мінулага года, якія з'явіліся ў Беластоку, у рэгіёне, і аўтары якіх паходзяць з Беласточчыны. Два вельмі добрыя томікі паэзіі, якія ўжо атрымлівалі ўзнагароды ў паэтычных конкурсах. І тры надзвычай цікавыя кнігі прозы, шчыльна знітаваныя з Беластокам і рэгіёнам, яго жыхарамі — кніга Андрасюка, Камінскага і Пшыходзень”.

Урачыстасць абвяшчэння лаўрэатаў прайшла ў беластоцкім цэнтры імя Людвіка Заменгофа 2 лютага 2012 года. Сёлета, як і летась, лаўрэатаў было двух. Першым стаў Міхась Андрасюк, 1959 г. нараджэння, родам з Войнаўкі, настаўнік, каменячос, журналіст, публіцыст, пісьменнік перш за ўсё пішучы па-беларуску — ушанавалі ягоную кнігу ў перакладзе Марціна Рэмбача на польскую мову, выдадзеную Цэнтрам грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь, а другім — Ян Камінскі, 1947 г. нараджэння, цяпер жыхар Ярылаўкі ў Гарадоцкай гміне, педагог-пенсіянер (40 гадоў настаўніцкай працы), эсэіст і пісьменнік (аўтар м.інш. „Фугі” і „Метафізікі правінцыі”), аўтар кнігі „Książka meldunkowa” выдадзенай Фондам „Sąsiedzi” ў Беластоку.

— Гэта асабліва беластоцка-падляшска-тутэйшыя намінацыі, — адзначыў перад абвяшчэннем прозвішчаў лаўрэатаў прафесар Дар'юш Кялчэўскі, філосаф, пісьменнік і эканаміст, старшыня капітула. — Найбольш чаканай была кніга Яна Камінскага, пра якую ён гаварыў 15 гадоў, яго найлепшая кніга, найбольш экспрэсіўная, аснаваная на цікавай задуме. А „Белы конь” Міхала Андрасюка — найбольш адпавядае духу месца, у якім мы знаходзімся, найбольш лапідарная — аўтару ў кароткай форме ўдалося прадставіць гісторыю мястэчка, гісторыю цэлай сям'і.

Як адзначыў Міхась Андрасюк (быў ён намінантам на прэмію таксама і ў мінулым годзе, за кнігу „Wagon drugiej klasy” напісаную па-польску), узнагарода была для яго сюрпрызам:

— Калі шчыра казаць, дык я не чакаў. Праўда, я другі год запар дабраўся да ўзнагароды літаратурнай прэміі імя Веслава Казанецкага, але не спадзяваўся, што зайду так далёка. Гэта нечаканая ўзнагарода, але вельмі прыемная. Думаю, што вялікая ў гэтым заслуга перакладчыка, Марціна Рэмбача, які вельмі ўмела перадаў клімат маёй прозы, яе настрой, яе мелодыку. Я, як радыёвец, вельмі чулы на фразу. Вельмі важная для мяне ўвага чытача. Хочацца, каб хтосьці ўзяў гэтую кніжку і прачытаў яе, каб яна сапраўды жыла. Я думаю, што ў гэтым роля такіх літаратурных конкурсаў — гэта рэклама кніжкі, рэклама аўтара, таксама рэклама Падляшша. Калі не памыляюся, то ўзнагарода Казанэцкага ў нашым памежным рэгіёне першы раз атрымала беларуская кніга. Я вельмі рады, што стала гэта маім удзелам. Я задаволены, што падзяліў шаноўную ўзнагароду з Янам Камінскім, бо ягоная кніга незвычайная, і цешуся, што капітул вырашыў так, а не інача́й.

Ян Камінскі прызнаўся, што гэтая прэмія — адна з першых узнагарод за ўвесь яго творчы шлях: „Гэта мой дэбют, калі казаць пра ўзнагароды. Шкада, што так позна, у сталыя гады. Цяпер нават не буду ведаць, куды гэтыя грошы патраціць. У час, калі меў здароўе, то ведаў бы... — жартаваў; мабыць, укладзе яе ў сваю ярылаўскую хату? — Я аб гэтай кнізе думаў трыццаць гадоў. Знаходка прапіснога сшытка-кніжачкі солтыса была інспірацыяй. Напісалася яна даволі хутка, ад вясны да восені. Я сядзеў у Ярылаўцы і пісаў, цяпер, на пенсіі, маю ўрэшце час для пісання.



Злева: Ян Камінскі, Міхась Андрасюк, Тадэвуш Трускаляскі

Прэзідэнт горада Беласток Тадэвуш Трускаляскі, які ўручаў узнагароды намінантам, звярнуў увагу на тыповасць узнагароджаных кніг:

— Гэта кнігі з пагранічча, са стыкоўкі культур. Сёння гэта асабліва каштоўнае таму, што ў свеце глабалізацыі, у свеце ўніфікацыі, калі ўжо заглядаеш у крамы, таксама і за мяжой, то ўсюды знойдзеш тое самае. Шукаем чагосьці арыгінальнага. І менавіта пры сутыкненні розных культур стваюцца ўнікальныя, непаўторныя рэчы, якіх не падробіш і якія не паддаюцца глабалізацыі.

Сярод віпаўска-мастацкай публікі ў цэнтры паявіліся чытачы розных узростаў і прафесій, якія не прапускаюць усіх культурных мерапрыемстваў у рэгіёне.

— Мае фаварыты занялі першае месца! — сказала спадарыня Валянціна родам з Ялоўкі. — Гэта вельмі прыгожыя кнігі. Я была і на прамоцыі гэтых кніг, і набыла іх. А такую прапісную кнігу вёў родны брат майго дзедкі, сакратар грамады ў Міхалове Юзак Нос!

— Стыль пісання Андрасюка і Камінскага трапляе да чалавека, — дадала спадарыня Данута, — проста ў сэрца і галаву.

— Яны — з нашых вёсак! — уключылася спадарыня Ніна. — І пра нашы справы пішуць, пра нашы персоны, наш дух!





# Абсалютны прыярытэт

*Ну вось і яшчэ адна элегантная перамога на постсавецкай прасторы. Уладзімір Пуцін, якому па праву і належаць практычна ўсе перамогі амаль усіх кандыдатаў краін СНД, якіх менавіта ён і абірае, і зацвярджае, і падтрымлівае, на гэты раз перамог сам. Ён упэўнена абставіў усіх сапернікаў, разбіўшы іх ушчэнт. Набраў больш за 60 адсоткаў, пакінуўшы астатнія дзяліць тым чатыром, якія выконвалі на расійскіх выбарах ролю зазывал, разагрэву і падтанцоўкі.*

*Каб сапернікаў у Пуціна было не чатыры, а чатыры тысячы, то вынік быў бы такім жа. Зрэшты, усё гэта прагназавалася задоўга да выбараў. Гэта там, на Захадзе ды ў Амерыцы да апошняй хвіліны невядома, які з кандыдатаў набярэ крыху больш галасоў за другога. Тут усё па-іншаму. Тут усё вядома — і хто пераможа, і якую палітыку ён павядзе на будучыню. Зрэшты, ён яе ўжо агучыў.*

*— Для нас абсалютным прыярытэтам у знешняй палітыцы з'яўляюцца краіны СНД, — сказаў ён журналістам пасля абвяшчэння першых вынікаў падліку галасоў.*

*Ніхто і не сумняваўся. Знешняя палітыка ўсяго толькі працяг унутранай. Калі там усё ўдалося падмяць пад сябе, то чаму не распаўсюдзіць гэты досвед для пачатку на суседзяў, на так званае СНД, што можна чытаць як СССР.*

*Чаму б не паспрабаваць гэта зрабіць, калі практыка паказвае, што менавіта брутальна захопленыя тэрыторыі і застаюцца найбольш падуплыўнымі. Прыкладам Чачня. Малацілі гарады і вёскі гэтай маленькай рэспублікі і артылерыяй, і самалётамі, і танкамі прайшліся, і пехатой. Крыві налілі і чачэнскай, і расійскай не мерана. Затое цяпер Чачня прагаласавала за Пуціна лепш чым які іншы рэгіён. Больш за 90 адсоткаў. Значыць, каб усе так зрабілі, трэба і з усімі так зрабіць, як з чачэнцамі. Мысленне зразумелае і абсалютна лагічнае, калі згрызотаў сумлення няма і не бывае.*

*А што да „абсалютнага прыярытэту" то думаю, што найперш гэта мы, беларусы. Яшчэ не пачынаўся падлік галасоў у Расіі, а ў Маскве ўжо збівалі дошкі для арэны, на якой будзе выступаць пераможца выбараў Пуцін. Яшчэ не зачыніліся выбарчыя ўчасткі, а ўжо аўтобусамі, з усіх куткоў неабсяжнай Расіі везлі ўдзячных слухачоў новага прэзідэнта, якім той сказаў: „Мы ім даказалі". А ўсе, хто зразумеў і хто не зразумеў, мусілі пляскаць у далоні.*

*А яшчэ раней, другі нумар кіруючага дуэта, на той момант дзейсны прэзідэнт Расійскай Федэрацыі сустрэўся з беларускім кіраўніком. І план „Абсалютны прыярытэт" уступіў у сілу. У Беларусі пачаўся дыпламатычны скандал.*

*Да скандалаў з замежнымі пасламі ў нас ужо даўно прывыклі. Гэтае мы ўжо праходзілі. Цяперашні скандал не першы. І не апошні. І тут, у цяперашнім дыпламатычным супрацьстаянні ўсё абсалютна лагічна і да болю ў зубах прадказальна. Гэта натуральна для сённяшняй беларускай рэчаіснасці, што так абышліся з прадстаўнікамі іншых краін. Выстройваць дыпламатычныя адносіны з іншымі дзяржавамі імкнуцца толькі тыя, хто як мінімум будуе сваю. Будуе дзяржаву на вякі і таму дбае пра яе гонар, аўтарытэт, надзейнасць, павагу і давер, пра сімволіку, мову, нацыянальную, культурную і духоўную спадчыны, гісторыю, выхаванне свайго патрыятызму, утрыманне свайго войска. Ну і, зразумела, пра свае грошы. І яшчэ пра многа рэчаў, якія па значнасці стаяць нашмат вышэй, чым міжнародныя стасункі.*

*А што ж будуецца сёння? А шмат чаго. І СНД, і саюзная Беларуска-расійская дзяржава, і Еўраазійскі саюз, і адзіная мытная прастора, і яшчэ шмат чаго. Толькі новаму-старому начальніку расійскай дзяржавы гэтага мала. Яму, хіба, трэба як мінімум СССР у межах пасляваенных гадоў. А пасля, можа, і Расійская імперыя ў дарэвалюцыйных межах. А пасля...*

*Знешняя палітыка ўсяго толькі працяг унутранай. Успомніце Чачню як унутраную палітыку, або Грузію як палітыку Расіі ў СНД. А зараз, хіба, Беларусь, як адначленне СССР. Ці не пра гэта казаў расійскі пакуль што яшчэ прэм'ер у вызначэнні палітыкі „абсалютнага прыярытэту"?*

**Віктар САЗОНАЎ**



# Помста ружовага коніка

*Калі Аляксандр Лукашэнка даў штурхель пад зад паслу РП у Беларусі, я не вельмі вераў, што Дональд Туск прамовіць голасам чалавека, а не палітыка і да таго па-беларуску. Усё ж! „Я хачу сказаць пару слоў грамадзянам Беларусі. Будзьце моцнымі. Трымайцеся! Жыве Беларусь!". Паверце мне, што нават сіла спалучаных галасоў таго, хто басам кліча ў пустыні і контральтаў песні сірэны не кранула б мяне так, як словы выказаныя польскім прэм'ерам. Здаецца, першы раз у гісторыі польска-беларускіх стасункаў кіраўнік польскага ўрада звярнуўся, абмінаючы дыпламатычны этыкет і гэтым самым дзейснага прэзідэнта Беларусі, непасрэдна да беларускага народа. Прытым на роднай яму мове. Рэч гэта вельмі рэдка практыкаваная ў свеце палітыкі і калі ўжо трапляецца, сведчыць аб крайнім вычарпанні палітычнага цярпення і ўвогуле людскага цярпення. І не столькі самога Дональда Туска, што ўсяго еўрапейскага эстаблішменту. Пацвярджэннем гэтага з'яўляецца далейшы тэкст прэм'ера, які ў гэты раз па-польску выказаў „поўную салідарнасць з усімі грамадзянамі, якія пакутуюць ад практык прэзідэнта Лукашэнкі і яго каманды".*

*Я не хацеў бы звышінтэрпрэтаваць словы польскага — я не заваганся прымяніць гэтае слова — дзяржаўнага дзеяча, — ды бадай ён з'яўляецца адзіным адважным палітыкам, які ясна паказаў, што ў асобе Аляксандра Лукашэнкі не бачыць партнёра, а толькі... селебрыці. Палітычную зорку. Селебрыці, як вядома, вядомыя тым, што яны... вядомыя. Як раптам паяўляюцца, так раптам і прападаюць. Пакуль, аднак, знікнуць, робяць вакол сябе столькі пустога шуму, што няма рады, каб гэтай дакучлівай прысутнасці не прыкмеціць. Селебрыцкі шум, аднак, хутка стамляе. Хто, напрыклад, сёння памятае нейкую Ёлю Рутовіч? Затое калі гаворка пра палітычных селебрыці, да якіх можна прылічыць і Аляксандра Лукашэнку ды яго сяброўскую тусоўку ў асобах такіх авантурыстаў як Чавес, Ахмадзінеджад ці Кадафі, дык справа намнога больш складаная. Папраўдзе і яны раптам паяўляюцца на палітычнай сцэне, а пасля таксама хутка знікаюць, аднак шкоды, якіх яны наробяць у „тым часе" нашмат больш балючыя чым, напрыклад, траўма, якую спазнала большасць палякаў на вестку аб тым, што выкралі ружовага коніка Ёлі Рутовіч. Дарэчы, гэта цікава, дзе і хто яго выкраў.*

*На маю думку, панну Ёлю і спадара Лукашэнку лучыць схільнасць да селебрыцкага выпендрошу. Ну і той ружовы конік. Калі аднак для Ёлі была гэта ўлюбёная і ні ў чым невінаватая плюшавая цацка, то ў творчай уяве спадара Лукашэнкі ператварыўся ён у дзікую, кашмарную пачвару, якую трэба няшчадна затаўчы. І так беларускі трагіфарс, якога Аляксандр Лукашэнка стаў несвядомым аўтарам, пераўзышоў межы любой уявы. Ружовы монстр разгаспадарыўся па ўсёй Беларусі. Заатакаваў Віцебск, дзе, кажуць, людзі паўцякалі на навагоднюю ёлку пастаўленую ў цэнтры горада, палохаючы пачвару бел-чырвона-белымі сцягамі. Пасля кінуўся на драты карнай калоніі, у якой хаваецца Уладзімір Някляеў. Цяпер рушыў на Мінск. Нядаўна спецслужбы не без цяжкасцей уціхамірылі бунт плюшавых цацак сабраных на Плошчы Незалежнасці, дзе пад ілжывым лозунгам „Міліцыянты вырвалі мне вока!" дэманстравалі ненавісную салідарнасць з ружовым конікам.*

*Таго ж ружовага коніка падазраваецца ў аўтарстве сцэнічнага пасквіля, які ставіць публіцыстычны teatr.doc. Гэта абражваючая ўладу Беларусі хроніка двухмесячнага хатняга арышту, якім пакаралі Уладзіміра Някляева.*

*Арышт заключаўся ў тым, што разам з Някляевым і яго жонкай Оляй сталі жыць службоўцы КДБ. Іх задачай была сочка „без хвіліны перадышкі і сну" распуснай шлюбнай пары. Дзверы да ўсіх памяшканняў мусілі быць адчыненыя. Таксама і тыя ў туалет... Вернемся да таго монстра з ружовай пысай; шэпчуцца, што спадар Лукашэнка выскачыў быў са свайго прэзідэнцкага туалета з крыкам, што явіўся яму там ружовы конік. Ну-у-у-у, конік, без пераборшчвання! Не лепш было б табе ў абдымках маркотнай Ёлі? Неадкладна вяртайся да яе. Я ж кахаю Ёлю.*

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Гадавінны канфлікт



*— Мяне не адправілі з Беларусі. Гэта трэба выразна сказаць. Мяне папрасілі падацца ў Польшчу на кансультацыю. Гэта зусім іншы ўзровень дыпламатычных адносін, — так тлумачыў 1 сакавіка журналістам на сустрэчы з Браніславам Камароўскім пасол Польшчы ў Беларусі Лешак Шарэпка. Два дні раней у санкцыі на апошнія санкцыі, прынятыя Еўрасаюзам у адносінах да беларускага рэжыму (як заявіў беларускі бок, Польшча мела тут ініцыятарскую ролю) быў ён разам са спадарыняй пасол ЕС пазбаўлены магчымасці выканання сваіх абавязкаў на тэрыторыі Беларусі. Польскія і шырэй еўрасаюзныя палітыкі адрэагавалі неадкладна і рашуча, прытым салідарна.*

*Высокапастаўленая прадстаўніца ЕС па замежных справах Катрын Эштан напісала ў заяве яшчэ ў той самы дзень, у якой выказана было рашэнне адносна Беларусі: „У жэсце салідарнасці і еднасці вырашана аб адкліканні на кансультацыі паслоў усіх членскіх дзяржаў у Мінску. Усе членскія дзяржавы ЕС сазвуць таксама ў свае міністэрствы замежных спраў паслоў Беларусі". У той самы дзень заяву выдала польскае МЗС: „(...) Гэта крок непрыязны ў адносінах да ўсяго ЕС (...) Умовы вяртання да дыялогу з Еўрасаюзам беларускім уладам вядомыя здаўна: спыненне рэпрэсій у адносінах да адкрытага грамадства і ўступленне на шлях дэмакратыі". Адначасова МЗС у Варшаве прымяніла крыху дзіўную практыку і на сваім сайце апублікавала ліст беларускага пасольства ў Польшчы гэтаму ведамству. Паведамляецца ў ім, што пасол РБ у Варшаве Віктар Гайсёнак „быў адкліканы на кансультацыі ў Рэспубліку Беларусь" і ў час яго непрысутнасці заменіць яго старэйшы дарадчык пасольства Андрэй Лазовік. Прытым той кароткі ліст поўны галантнасці. Пачынаецца ад перказання польскаму МЗС слоў пашаны, а канчаецца „напаўненнем міністэрству слоў высокай пашаны". У сувязі з сітуацыяй у Беларусі спецыяльную пастанову 2 сакавіка прыняў польскі Сейм (раней саймавая камісія замежных спраў; тэкст пастановы пабліукем у гэтым нумары „Нівы"), а сваёй дарогай некаторыя парламентарыі яе „дапоўнілі". Багдан Барусэвіч, маршалак Сената, гаварыў журналістам:*

*— Вядома, што моркаўка на Беларусь не дзейнічае. Трэба выцягнуць кіі.*

*У сваю чаргу старшыня сеймавай камісіі замежных спраў Гжэгаж Схетына заявіў, спасылаючыся на кансультацыі ўсіх паслоў ЕС:*

*— ЕС патрапіць павесці сябе салідарна з Польшчай. Мусім гаварыць адным голасам. Мусім гэтыя дзверы для Беларусі адчыняць праз Польшчу.*

*У дзень, у які Сейм прыняў пастанову наконт сітуацыі ў Беларусі, прадбачана, што ў чарговы раз мае заснавацца парламенцкая група па справах Беларусі. Да гэтага часу на яе чале стаяў падляшскі дэпутат ад ГП Роберт Тышкевіч.*

*2 сакавіка мінула таксама 20 гадавіна наладжання дыпламатычных зносін паміж Польшчай і Беларуссю. З гэтай нагоды МЗС у Варшаве выдала заяву: „З перспектывы мінулага 20-годдзя мусім ясна заявіць, што шанцы блізкага супрацоўніцтва не выкарыстоўваюцца. Мяжа надалей застаецца сур'ёзным бар'ерам, а не месцам творчай сустрэчы (...). На працягу больш чым дзесяці гадоў паміж нашымі дзяржавамі выступаюць з рознай інтэнсіўнасцю сур'ёзныя палітычныя напружанні. Факт, што ў Беларусі надалей зачыняюцца ў турмах людзі, якіх адзінай віной з'яўляецца патрабаванне права на фарміраванне лёсу ўласнай айчыны, прывёў да таго, што Беларусь апынулася ў стане паглыбленай самаізаляцыі. У такіх цяжкіх умовах Еўропа, да якой належыць Беларусь і што выяўляецца ў еўрапейскіх памкненнях шмат якіх беларусаў, асабліва маладога пакалення, мусіць застацца салідарнай з тымі, хто за вернасць дэмакратычным каштоўнасцям плаціць у Беларусі такой высокай цаной — зняволеннем, стратай здароўя, разлукай з сям'ёй і найбліжэйшымі".*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота
Аляксея МАРОЗА

— Добра было б, калі б паслы ўбачылі рэзультаты аховы прыроды на прыкладзе таго, што дзеецца вакол дарогі Гайнаўка — Белавежа. Думаю, што тады нашыя парламентарыі задумаліся б ці такой Белавежскай пушчы хочуць, — лічыць нараўчанскі войт Мікола Павільч.

# Далейшае змаганне за Белавежскую пушчу

**У пачатку гэтага года ў Сейме РП стаў разглядацца грамадзянскі праект змен у закон аб ахове прыроды, у якім прапануецца абмежаваць правы мясцовых самаўрадаў. Згодна новаму праекту, самаўрады не маглі б ужо вырашаць аб стварэнні новых і павялічванні плошчы існуючых нацыянальных паркаў, так як да гэтай пары, а толькі праводзіліся б з імі звычайныя кансультацыі. Лічыцца, што грамадзянская ініцыятыва ў справе паркаў пачала хутка раскручвацца менавіта з-за нашага Белавежскага нацыянальнага парку, а карацей гаворачы, пасля таго, як самаўрады Гайнаўскай, Нараўчанскай і Белавежскай гмін у 2010 годзе не згадзіліся на прапанову Міністэрства асяроддзя павялічыць плошчу БНП. Узамен самаўрады Гайнаўскага павета мелі атрымаць датацыі і льготныя пазыкі на суму больш за 70 млн. зл. на праэкалагічныя інвестыцыі. Хаця не страцілі яны ўсіх згаданых сродкаў, то зараз з дзяржаўнага бюджэту прапануюцца на праэкалагічныя інвестыцыі адносна невялікія грошы. Ёсць шанц, што пушчанскія і прыпушчанскія гміны атрымаюць вялікія еўрасаюзныя сродкі, за якія хадайнічаюць пасол ад Грамадзянскай платформы Роберт Тышкевіч і незалежны сенатар Уладзімеж Цімашэвіч, але гэта яшчэ больш аддаленая перспектыва.**




Па-за Белавежскім нацыянальным паркам пушча строга ахоўваецца на тэрыторыі шматлікіх запаведнікаў прыроды

Частка назіральнікаў за размовамі ў справе міністэрскага праекта павелічэння тэрыторыі БНП, што восенню 2010 года закончыліся паразай, меркавалі, што адной з перашкод былі самаўрадавыя выбары, перад якімі праводзіліся сельскія сходы, кансультацыі і галасаванні радных у справе пушчы. З ліку прыпушчанскіх войтаў войт Нараўчанскай гміны Мікола Павільч быў найбольш заангажаваны ў размовы з міністэрскімі чыноўнікамі ў справе ўзбуйнення парку і перад самаўрадавымі выбарамі на пасаду войта гэтая ангажаванасць лічылася заганнай. У выпадку Нараўчанскай і Гайнаўскай гмін вырашальнымі аказаліся вясковыя сходы, у час якіх людзі масава прагаласавалі супраць праекта павелічэння тэрыторыі Белавежскага нацыянальнага парку. Аднак ёсць таксама жыхары, якія падтрымліваюць ідэю ўзбуйнення БНП, а нават змагаюцца за яе.

— Я думаю, што грамадзянскі праект змен у закон аб ахове прыроды вельмі важны. Цяперашні закон дае большыя магчымасці самаўрадам, гарантуе ім права вета, але на працягу апошніх дзесяці гадоў ён не апраўдаўся. Многа разоў вяліся размовы ў справе пашырэння Белавежскага нацыянальнага парку і за кожным разам кончыліся яны паразай. Калі адзін з бакоў размоў у кожнай хвіліне можа сказаць „не", яны могуць быць сарваны без асаблівай аргументацыі такіх паводзін. Міністэрскі бок думаў як перакупіць мясцовых людзей, а тыя думалі, як не схочам такой прапановы, то скажам „не", — сказаў Януш Корбель з Белавежы, дзеяч Таварыства аховы краявіду і прыхільнік пашырэння парку. — Папярэдні міністр вельмі хацеў крыху павялічыць парк, каб быў таксама палітычны поспех. Пасля доўгіх размоў усе бакі згадзіліся пашырыць парк, перш за ўсё коштам існуючых запаведнікаў, але ўсё ж такі гміны не прынялі гэтай прапановы і ўсе бакі на гэтым страцілі. Калі б распачаліся размовы ў справе пабольшання Белавежскага парку паводле новага закону аб ахове прыроды, трэба было б таксама гарантаваць пушчанскім людзям, што змены не нанясуць ім урону. Узбуйненне парку не мае нічога супольнага з закрываннем яго перад мясцовымі людзьмі.

Хаця прадстаўнікі экалагічных арганізацый пераконваюць мясцовае насельніцтва, што ў Белавежскім нацыянальным парку можна будзе па-за запаведнікамі збіраць грыбы, ягады і прывозіць з парку дровы, то многія людзі не давяраюць такім тлумачэнням, аб чым я пераканаўся ў размовах з вяскоўцамі. Прадстаўнікі ад мясцовых самаўрадаў Гайнаўскага павета адмоўна ставяцца да грамадзянскага праекта аховы прыроды і гэтая пазіцыя зразумелая, бо змены забралі б жа ім права вырашаць справу пашырэння Белавежскага парку.

— Добра было б, калі б паслы ўбачылі рэзультаты аховы прыроды на прыкладзе таго, што дзеецца вакол дарогі Гайнаўка — Белавежа. Думаю, што тады нашыя парламентарыі задумаліся б ці такой Белавежскай пушчы хочуць, — лічыць нараўчанскі войт Мікола Павільч. — Грамадзянскі праект закону аб ахове прыроды шкодны і для мясцовай грамадскасці, і для прыроды. Ахову пушчы можна будаваць не толькі законамі, але таксама дыялогам.

— Самаўрады не павінны страціць права прымаць удзел у фарміраванні пастаноў у справах, якія іх датычаць. Пад праектам змен у закон аб ахове прыроды падпісаліся ў галоўным людзі з Варшавы, Познані і іншых аддаленых ад нас мясцовасцей, якія тут не жывуць, — сказаў гайнаўскі староста Уладзімір Пятрочук.

— Забраць мясцовым людзям магчымасць вырашаць справу аховы Белавежскай пушчы было б трагедыяй для нашага насельніцтва і выступленнем супраць нацыянальных меншасцей, якія тут пражываюць. Калі б без згоды мясцовага насельніцтва быў пабольшаны Белавежскі парк, скарацілася б колькасць месц працы ў нас і людзі пачалі б шукаць работы ў іншых рэгіёнах. Складана было б таксама купіць у нас дровы, збіраць ягады, ці грыбы, — заявіў Валянцін Васілюк, старшыня аб'яднання Абарона Белавежскай пушчы «SANTA», члены якога дэкларуюць змагацца за захаванне прыроднай і культурнай спадчыны рэгіёна Белавежскай пушчы.

У мінулым годзе дазволена высекчы ў Белавежскай пушчы каля 50 тыс. кубаметраў драўніны. Зараз распрацоўваюцца новыя планы добраўпарадкавання лесу і задач па ахове Белавежскай пушчы на 2012-2021 гады. Ад іх многа будзе залежаць у плане падрыхтоўкі мясцоваму насельніцтву драўніны для абагравання дамоў. У мінулым годзе драўніны было надта мала, прынамсі на тэрыторыі Гайнаўскай гміны. Уступна прадбачваецца пабольшанне гадавога ліміту высечкі дрэў у пушчы да пазамінулагодняга — звыш 100 тысяч кубаметраў, але ёсць таксама прапанова захаваць ліміт на мінулагоднім узроўні — каля 50 тысяч кубаметраў. У гэтай справе Рада горада Гайнаўкі прыняла нават пастанову з заклікам пабольшаць ліміт да 220 тысяч кубаметраў у год на тэрыторыі Лясного прамацыйнага комплексу „Белавежская пушча" і з гэтага 70 тысяч кубаметраў драўніны прызначыць толькі на патрэбы горада Гайнаўкі і Гайнаўскага павета. Гайнаўскія радныя звяртаюць таксама ўвагу, што ў выпадку больш строгай аховы Белавежскай пушчы можа страціць работу на Гайнаўшчыне каля 350, а ў даўжэйшым перыядзе нават каля 700 чалавек.

— Подпісы пад грамадзянскім праектам змен у закон аб ахове прыроды збіраліся ў час матчаў ці канцэртаў, дзе былі развешаны лозунгі з патрабаваннем аховы Белавежскай пушчы перад масавай высечкай. Людзі з Польшчы не разбіраюцца ва ўмовах аховы Белавежскай пушчы і падпісваліся без асаблівага аналізу справы. Калі б гэтыя людзі прыехалі да нас і пазнаёміліся з умовамі аховы пушчы, большасць з іх магло б не падтрымаць ініцыятывы экалагічных арганізацый, — лічыць бурмістр Гайнаўкі Ежы Сірак.

— Погляды наконт грамадзянскага праекта змен у закон аб ахове прыроды сярод паслоў — розныя. Я сам выказваюся супраць адбірання самаўрадам важнага голасу, я — за дыялог і шуканне кампрамісу, — гаварыў пасол Роберт Тышкевіч з Грамадзянскай платформы.

Пасол ад СЛД Яўген Чыквін звярнуў увагу на каля 2 мільёны кубаметраў драўніны, якая, паводле яго, знішчаецца ў Белавежскай пушчы. Прыгадаў таксама, што жыхары Гайнаўшчыны пачалі купляць больш вугалю для абагравання дамоў, бо абмежавалася продаж пушчанскай драўніны для іх. Запрапанаваў ён наладзіць у Сейме грамадзянскія слуханні ў справе змен у праект, у якіх у сакавіку маюць прыняць удзел, між іншым, прадстаўнікі ад прыпушчанскіх самаўрадаў і экалагічных арганізацый. Выдатная большасць паслоў Сейма РП прагаласавала за разгляд грамадзянскага праекта ў сеймавых камісіях. Наконт будучыні праекта ёсць розныя меркаванні. Адны назіральнікі лічаць, што запіс у грамадзянскім праекце пастановы аб ахове прыроды, які можа выдатна абмежаваць правы самаўрадаў, будзе ўсё ж такі адхілены парламентарыямі, а іншыя мяркуюць, што праект будзе прыняты пасля невялікіх паправак і ў выніку самаўрады страцяць магчымасць расстройваць ініцыятывы Міністэрства асяроддзя ў справе павялічвання паркаў і ў хуткім часе Белавежскі нацыянальны парк можа ахапіць нават усю Белавежскую пушчу. Час пакажа чые прадказанні больш трапныя.

# Закалот вакол пагранічнага перахода

З пачаткам студзеня г. г. было адменена курсіраванне рэйкавых аўтобусаў на лініі Чаромха — Высока-Літоўск. Перавозчык, а было ім Прадпрыемства „Інтэрсіты" ў Варшаве, сваё рашэнне аргументавала нерэнтабельнасцю маршруту. Паслядоўнасцю рашэння стала ліквідацыя Мытнага аддзялення на станцыі. Лішнія мытнікі былі пераведзены ў памежныя Баброўнікі. Чаромхаўскі самаўрад адмоўна паставіўся да адмены маршруту Чаромха — Высока-Літоўск і ліквідацыі Мытнага аддзялення. 19 студзеня 2012 г. Рада гміны разам з войтам выступілі ў Дэпартамент мытнай службы Міністэрства фінансаў з просьбай высветліць прычыны складўшайся сітуацыі, а затым адмяніць раней



Фота Уладзіміра СІДАРУКА

прынятае рашэнне. У адказе ад 10 лютага г.г. дырэктар Дэпартамента мытнай службы Гжэгаж Смагажэўскі напісаў, што адкрыццё, закрыццё, адмена або прыпыненне руху на пагранпераходах адбываецца на падставе ўзаемных міжнародных узгадненняў шляхам абмену дыпламатычнымі нотамі, а такіх не было. Такім чынам чыгуначны пагранпераход Чаромха — Высока-Літоўск не быў ліквідаваны, толькі рух на ім быў адменены. Далей дырэктар адзначыў, што Мытная служба не мае магчымасці ўплываць на перавозчыка ў справе ўтрымання маршруту, калі той лічыць яго нерэнтабельным. А пра ліквідацыю Мытнага аддзядення напісаў наступнае: „Функцыянаванне Мытнага аддзялення ў Чаромсе шчыльна было звязана з абслугай пасажыраў чыгуначных міжнародных маршрутаў Чаромха — Высока-Літоўск (...) а дадатковай задачай была абслуга тавараабароту. (...) У 2010 г. Мытнае аддзяленне ў Чаромсе прыняло 2 257 мытных заяў, у 2011 г. — 2 012; для параўнання Мытнае аддзяленне ў Беластоку у 2010 г. прыняло 26 353 заяўкі, а ў 2011 г. — 30 376". І далей: „Мытны кантроль праводзіцца Мытным аддзяленнем у Семяноўцы ў вызначаным месцы ў Чаромсе да 31.05.2012 г. (...) У перыядзе функцыянавання вызначанага месца суб'екты будуць мець гарантаваны доступ да рэалізацыі мытнага кантролю на дасюлешніх прынцыпах, у тым ліку таксама да атрымання сертыфікатаў паходжання".

Абагульняючы можна прыйсці да высновы, што адмяненне руху цягнікоў на лініі Чаромха — Высока-Літоўск адбылося з парушэннем закону. Як вынікае з тлумачэння дырэктара, адкрыццё, закрыццё, адмена або прыпыненне руху на пагранпераходах павінна адбыцца на падставе ўзаемных міжнародных узгадненняў шляхам абмену дыпламатычнымі нотамі паміж міністэрствамі замежных спраў. Здзіўляе мяне факт, што ў згаданай справе Маршалкоўская ўправа набрала вады ў рот і маўчыць. А гэта ж у яе кампетэнцыі знаходзіцца пасажырскія перавозы на яе тэрыторыі, як і выконванне законаў перавозчыкам, прытым законаў міжнароднага рангу.

**Уладзімір СІДАРУК**

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# За Браньскам



**Ранішні аўтобус з Беластока ў Цехановец праз Лапы забірае з вялікага горада дзве асобы. Перад Суражам яшчэ дзве. У Суражы, на маё здзіўленне, не спыняючыся, машына не кіруецца ў напрамку Лап, толькі едзе ў бок Страблі. У Завыках забірае сямёра моладзі і заварочваецца назад. У Суражы ніхто не злазіць, толькі заходзяць чарговыя сем маладых асоб. Усе пасажыры, апрача мяне, пакідаюць аўтобус у Лапах.**

Апошнім часам ездзіў я гэтым курсам бадай два гады раней. Не заязджаў ён тады ў Завыкі, не забіраў адтуль моладзі. Але час памяняўся, у Лапах спынілі працу дзве вялікія фірмы, цукровы завод і вагонная майстэрня, працуюць толькі школы. Магчыма, што аўтобусам мясцовага курсіравання, якімі даязджалі з вёсак рабочыя ў згаданыя заводы, не стала каго вазіць, курсы паліквідавалі, а моладзь у лапскія школы возіць прынагодна аўтобус, што праз Лапы праязджаў быццам выпадкова. За Лапамі па дзве асобы дасядаюцца яшчэ ў Масквіне, Алендзкіх і Свірыдах, усе выходзяць у Браньску, далей аўтобус павёз паветра. У Браньску перасядаюся ў іншы аўтобус, што з Бельска едзе ў напрамку Сямятыч; з'яўляюся там адзіным пасажырам. У Бурхатах жанчына дасядае, каб праехаць два прыпынкі — у касцёл у Кліхах. У Галёнках злажу і я; далей шафёр паехаў сам.

Навошта я пішу пра такія дэталі? Каб паказаць, што наша насельніцтва перастае карыстацца публічнай камунікацыяй, што няма ёю каму ездзіць, няма каму плаціць за праезды аўтобусаў і іх курсы будуць далей ліквідавацца. Калісь вельмі патрэбнае дабрадзейства, якім з'яўляецца публічная камунікацыя, цяпер патрэбнае мала каму.

Памяняўся агульны сацыяльны краявід нашага старонbackslash-free ня, насельніцтва наша перабралася ў гарады, на вёсцы мала хто астаўся. Ды не толькі ў нас памяняўся грамадскі краявід, мяняецца цэлы свет, тэхнічныя навінкі мяняюць не толькі агульнае грамадскае жыццё, але і вельмі цікава мяняюць таксама жыццё сямейнае. Вазьму, для прыкладу, сямейны абед — калісь была гэта падзея, якая сям'ю інтэгравала, а сёння пачынае яна набываць зусім іншы напрамак. Бывала раней, што да абеду народ наш сядаў з лыжкай, або і голымі рукамі. Цяпер жа ўжо мала трымаць у руках тэлепульт (пра відэльцы не пара ўжо і згадваць): цяпер найбольш перадавы народ у час абеду трымае ў руках мабільнікі, пры дапамозе якіх выходзіць на ўсю „глабальную вёску". З дапамогай тэхналагічных навінак сучасны чалавек прысутны ва ўсім свеце, можа паказваць асобе з антыподаў, што мае акурат на талерцы, і наглядаць, чым акурат яна займаецца, не звяртаючы нават увагі на тых асоб, што сядзяць побач, за адным сталом. Ды ўжо найбольш перадавы фольк перастае нават размаўляць, бо мабільнікі дазваляюць размаўляць моўчкі — тэкставаць з кім душа захоча. А з кім не захоча, з тым тэкставаць не будзе, нават калі тая асоба ўпрытык побач...

Вось нашы маладыя вясковыя і мястэчковыя людзі яшчэ ездзяць на аўтобусах у гарады вучыцца, але праз некалькі гадоў яны, магчыма, будуць глядзець на свет толькі пасрэдна, з дапамогай экрана. А чарговае пакаленне можа нават здзівуецца, што калісь народ збіраўся за адным сталом, што людзі з сабою размаўлялі, што заўважалі суседзяў побач сябе. І мелі да тых суседзяў эмацыянальнае дачыненне; сімпатызавалі ім, зайздросцілі, пагарджалі, ненавідзелі, крыўдзілі. Што бывала нават нейкае пекла на гэтай зямлі. Пра гэта апошняе, ці мо пра будучы апакаліпсіс, можа будуць дазнавацца з тэкставаных у мабільніках пропаведзей...

Я так выбег наперад выглядаючы нейкага зямнога раю, абяцанага рознымі прарокамі нашчадкам калісь выгнанага з першабытнага Эдэма народу. Дзе будзе ўстаноўлена справядлівасць, а ўсе ранейшыя крыўды будуць выпраўлены... З аўтобуса злез я ў Галёнках, бо за Галёнкамі Пухалы-Старыя, дзе ў канцы студзеня 1946 года падпольны ў тагачасных умовах атрад „Бурага" зладзіў пекла тром дзесяткам вазакоў, якія карысталіся іншай чым забойцы мовай.

Думаў я пабачыць тое месца, дзе было здзейснена злачынства. Яшчэ ў Беластоку пытаў нашу Ганну Кандрацюк, якая там была пару гадоў таму ў час набажэнства, дзе таго месца шукаць. Параіла яна мне даведвацца ў тамашніх людзей, дадаючы, каб выбраўся я яшчэ ў час маразоў, бо ад вёскі дайсці туды макравата. Паехаў я ў час, калі найбольш лютыя маразы адпусцілі і ўжо нясмела пачынала брацца адліга...


Касцёл у Кліхах

Прайшоў я праз усю немалую вёску Пухалы-Старыя, аднак нікога навонкі хат не спаткаў. Зайшоў я за вёску, да лесу, і павярнуўся назад. Вяртаючыся ўбачыў гаспадыню каля крайніх збудаванняў; зайшоў я на панадворак. Жанчына сказала, што месца, дзе былі пабіты вазакі, за рэчкай і прайсці туды цяпер будзе складана. Я выказаў ахвоту прайсці туды па ільдзе, але яна засцерагла, што па тым ільдзе трэба было б яшчэ палажыць нейкі дручок, каб не праваліцца. Вось калі б быў дома ейны муж, ён бы дапамог мне знайсці тое месца. Выказала яна абурэнне, што сем'і забойцаў атрымалі вялікія грошы кампенсацыі за пакаранне забойцаў. Запэўніла яна мяне, што мемарыял абгароджаны і акуратна дагледжаны. І запрашала мяне прыехаць, калі будзе больш суха, калі можна будзе без праблем дайсці на патрэбнае мне месца.

Падаўся я далей, значыць назад, у напрамку Галёнак. Паміж Пухаламі-Старымі і Галёнкамі працякае рэчка Чорная, тая самая, якая аддзяляе Пухалы-Старыя ад лесу, у якім былі забіты вазакі. Яна ў тым месцы мае каля трох метраў шырыні і пераскочыць яе без разгону было б хіба немагчыма. Да таго ж, яшчэ ў Браньску, выходзіў я на раку Нурэц, а яна не ўсюды была скавана ільдом — у некаторых месцах яго ўжо не было. Гэтак жа і на Чорнай вада з-пад споду магла падмыць лёд...

У шматлікіх гістарычных артыкулах пра мясцовую гісторыю галоўнае месца займае тэзіс пра засяленне мясцовых зямель мазаўшанамі; пра засяленне з іншых напрамкаў часта і не згадваецца. Наваколле Браньска быццам і ілюструе тыя найбольш модныя ў мясцовых гісторыкаў міграцыйныя вектары. Назвы мясцовасцей — Кліхі, Войткі, Бурхаты, Пухалы, Шмурлы, Аленды — здаюцца быць добрым доказам галоўнага вектара, але Галёнкі ці Паплавы падказваюць іншы напрамак. Дарэчы, нават вясковае дойлідства тут адрознае. На левабярэжжы Нурца драўляныя хаты не маюць падшчытнікаў, характэрных Гайнаўшчыне. Заміж падшчытнікаў там вертыкальны ніжні пояс шчыта з дошак сямідзесяцісантыметровай вышыні, а вышэй яго мазаіка з дошак, якая спатыкаецца далей на ўсход.

Галоўнай вёскай каля Пухал з'яўляюцца менавіта Галёнкі. Там і школа, і два пажарных дэпо — старое і новае. Ёсць і пункт прыёму малака, але слядоў пастаўшчыкоў каля яго няма. Касцёл для тамашніх вернікаў стаіць у Кліхах, цяпер там стаіць мураваны касцёл, пабудаваны ў 2000 годзе; яшчэ два гады таму стаялі там два касцёлы — быў яшчэ і драўляны, пабудаваны ў 1930 годзе...

У Відзьгове захапіў мяне тамашні аўтобусны прыпынак, а дакладней — будыначак пачакальні. А зацікавілі мяне фіранкі ў акне: хто ж гэта ў нас бачыў, каб у акне аўтобуснага прыпынку вешаць фіранкі — то ж з імі зараз зрабілі б нейкую гагатуху!.. Падумаў я нават, што дзверы пад ключом, каб туды не ўлезлі нейкія вандалы. Але дзверы былі адкрыты. Усярэдзіне акуратна, чыста, з пахам свежай фарбы. Проста — рай! Хто ведае, можа калі фарба страціць сваю свежасць, то і фіранкам стане больш туга. А пакуль, паводле раскладу язды, праз Відзьгова праязджае пяць аўтобусаў за суткі...

Яўхім РУПАЙЛА

# Пачатак „Года Крашэўскага”

**У сусветным календары юбілейных дат на 2012 год, напэўна, сярод вялікіх юбілеяў асобна вызначаецца 200-годдзе з дня нараджэння нашага земляка-ліцвіна, літаратара, мастака, музыкі, навукоўца і выдаўца Юзафа Ігнацы Крашэўскага. Найбольш насычаным на падзеі да гэтага юбілею будзе Пружаншчына, якая з'яўляецца для „тытана працы” малой радзімай. Ініцыяваў маштабнае святкаванне аддзел культуры Пружанскага райвыканкама, ужо распрацаваны і зацверджаны на высокім узроўні план мерапрыемстваў да гэтага значнага юбілею. Галоўная роля ў святкаванні тут належыць музею-сядзібе Пружанскі палацык, які вось ужо амаль пяць гадоў у супрацоўніцтве з Музеем Ю. І. Крашэўскага ў Раманове (Польшча) займаецца вывучэннем спадчыны пісьменніка. На працягу года музеем запланаваны шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных гэтаму юбілею.**


Фота Міколы ДУБІНЧУКА

Выступае дырэктар Музея Ю. І. Крашэўскага ў Раманове Анна Чабадзінская-Пшыбыслаўская

І вось, своеасаблівым адкрыццём „Года Крашэўскага” стала імпрэза, якая адбылася 26 студзеня 2012 г. у сценах Пружанскага палацыка — тут праходзіла прэзентацыя серыі выданняў „К 200-летию со дня рождения Ю. И. Крашевского”, што выйшла ў брэсцкім выдавецтве „Альтернатива”. На мерапрыемства сабралася шмат мясцовай інтэлігенцыі, прыехалі вучні Загорскай школы (бліжэйшая да радавога маёнтка Крашэўскіх у в. Доўгае на Пружаншчыне), якія пад кіраўніцтвам настаўніка гісторыі Мікалая Сахарука ствараюць мемарыяльны куточак Крашэўскіх у школе з макетам сядзібы. З польскага Музея Ю. І. Крашэўскага ў Раманове прыехала дырэктар Анна Чабадзінская-Пшыбыслаўская ў суправаджэнні дэпутата Рады Бяла-Падляшскага павета Рышарда Бося. З Упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама завітаў галоўны спецыяліст па гісторыка-культурнай спадчыне Вячаслаў Гарбузаў. Усе прысутныя ўзялі слова пра Крашэўскага, гаварылі таксама і пра сядзібу


Фота Міколы ДУБІНЧУКА

Руслана Гусева і Ю. І. Крашэўскі

і культурныя зносіны паміж Польшчай і Беларуссю, пра важнасць вывучэння спадчыны такіх землякоў-творцаў, як Крашэўскі і, зразумела, пра аўтарку серыі „К 200-летию со дня рождения Ю. И. Крашевского”.

А распачатая серыя была ў 2009 годзе на ўласныя сродкі брэсцкай журналісткай Русланай Гусевай, якая вядомая на Брэстчыне па перадачах БСТ „А ці ведаеце лі Вы?”, „5 хвілін гісторыі”. Яшчэ ў час сваёй прафесійнай дзейнасці яна зацікавілася жыццём і творчасцю Ю. Крашэўскага і ўжо на пенсіі пачала больш шчыльна знаёміцца з яго спадчынай. Так з'явілася першая кніжка творчых эсэ, вершаў, уласных перакладаў фрагментаў твораў Крашэўскага „К Крашевскому в Романов и Долгое” — спроба пазнаёміць чытача з постаццю пісьменніка. Гэтая кніжка раскрывае асаблівыя адносіны аўтаркі да Крашэўскага. Потым, у 2010 г. — „Дары пилигрима” — пераклады лірыкі Юзафа Крашэўскага, зробленыя роднай сястрой Русланы Гусевай — Ірынай, якая жыве ў Маскве. У гэтым жа годзе выходзіць трэцяя кніжка — „Конспекты по Крашевскому”. Матэрыялы гэтага зборніка знаёмяць чытача з першымі гадамі жыцця творцы, яго школьнымі гадамі, таксама храналогіяй жыцця, водгукамі сучаснікаў пісьменніка аб яго творчасці і г.д.

Апошняя кніжка пабачыла свет у жніўні 2011 г. — „Песнь о Витоле”. У гэтай кніжцы змешчаны ўласны пераклад Русланы Гусевай фрагментаў першай кнігі трылогіі „Анафеляс” Ю. Крашэўскага — „Віталараўда”, пераклад першай главы трэцяй кніжкі „Богі Вітальда”. У дадатку зборніка — артыкулы сучаснікаў Крашэўскага пра літоўскую міфалогію, а таксама артыкул першага намесніка начальніка Упраўлення ідэалогіі Брэсцкага аблвыканкама Ігара Гетмана, карані якога, як і Крашэўскга, з вёскі Доўгае Пружанскага раёна, у якім ён марыць пабачыць у бліжэйшым будучым узноўленую сядзібу Крашэўскіх у Доўгім у рамках магчымай праграмы „Маёнткі Беларусі”.

Рэдактарам выданняў усёй серыі значыцца Любоў Красеўская — намеснік старшыні Брэсцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. На імпрэзе яна пранікнёна прачытала асабістыя пераклады вершаў Юзафа Крашэўскага.

Як зазначыў дырэктар музея-сядзібы Пружанскі палацык Юрый Зялевіч:

— Руслана Мікалаеўна Гусева, напэўна, адзіны з найболыш моцных „крашэўсказнаўцаў” на Беларусі. Яна з'яўляецца галоўным генератарам ідэй у творчай групе, арганізаванай пры музеі па вывучэнню спадчыны пісьменніка і навукоўца. Вялікі патэнцыял ведаў па Крашэўскім, які валодае сёння аўтарка серыі, выльецца яшчэ, магчыма, не ў адну кніжку. І сапраўды, асаблівы асабісты падыход да Крашэўскага ў кніжках Русланы Мікалаеўны вабіць чытача, зачароўвае асобай Юзафа Ігнацы Крашэўскага. Яны, такім чынам, далёкія ад гісторыі і літаратуры, пачынаюць цікавіцца яго спадчынай. Гэты знакаміты і невядомы пісьменнік заходзіць да нас праз зборнікі Русланы Гусевай.


Фота Міколы ДУБІНЧУКА

Свае пераклады чытае Любоў Красеўская

У сваю чаргу аўтарка адзначыла ўсіх і за падтрымку, і за намаганні, і за дапамогу, за цікаўнасць да асобы Крашэўскага і неабыякавасць да нашай спадчыны. А напрыканцы дадала, што хутка пабачыць свет пятая кніжка з серыі і, неўзабаве, магчыма, з'явяцца новыя праекты. І падаравала камплект серыі пружанскаму музею і Загорскай школе. А дырэктар музея ўсім — аўтарцы і прысутным гасцям — альбом-каляндар пружанскага мастака Барыса Бокшы, дзе можна пабачыць апошнія работы графіка, сярод якіх сядзіба Каетана Крашэўскага ў в. Куплін Пружанскага раёна. Асаблівы падарунак прысутным зрабіў струнны ансамбль „ARCHI” Пружанскай дзіцячай школы мастацтваў (кіраўнік Юлія Сядова), аздобіўшы імпрэзу класічнымі музычнымі творамі XIX стагоддзя.

Вокладкі выданняў серыі „К 200-летию со дня рождения Ю. И. Крашевского”




## Прыемны валянцінкавы ўспамін

Быццам гэта было ўжо даўнымдаўно. Вялікі пост ужо пачаўся. Аднак у маёй памяці астаўся вельмі прыемны ўспамін пра Свята закаханых. Звычайна для мяне ды майго мужа гэта не надта важны дзень у нашым календары. Ягоная медыйнасць мабілізуе нас, каб прыдумаць штосьці нетыповае ды проста прыемна супольна правесці зімовы вечар. У гэтым годзе мы вырашылі праверыць прапанову гайнаўскага аквапарку. Перад усім кожная магчымасць актыўна правесці час вельмі добрая. А ў той дзень білеты былі больш танныя. Але гэта не ўсё, што падрыхтавалі працаўнікі басейна ды галерэі „Лавачка”. Калі надышоў прыцемак і людзі мелі больш свабоднага часу, каб святкаваць ці адпачыць, кожнага наведвальніка прывітала прыгожая дзяўчынка ў іспанскай чырвона-чорнай сукенцы з кошыкам поўным ледзяшоўсэрцаў. Будынак усярэдзіне выглядаў незвычайна — быў прыемна ўпрыгожаны, свечкі дапамагалі стварыць ад-

Фота Альжбеты ВАЛЕСЮК



паведны настрой. Хаця на дварэ панаваў люты мароз, у камернай атмасферы аквапарку было цёпла і ўтульна.

Мы раней даведаліся, што будзе канцэрт пажаданняў і вырашылі паслаць віншаванні. Рэдка нам хочацца прысвяціць хвілінку ды прыдумаць нейкі цікавы тэкст для кагосьці блізкага. Калі мы прыехалі да аквапарку, нецярпліва чакалі, каб пачуць сваю валянцінку. А хацелася таксама паспець паплаваць перад закрыццём басейна. Збігнеў Будзынскі, гайнаўскі мастак, чытаў вершы пра каханне, між іншым „У малінавым галлі” Лесьмяна — хіба адзін з найбольш папулярных вершаў у Польшчы пра каханне, „Залатое неба адкрыю табе” Бачынскага, нейкія жартаўлівыя афарызмы пра каханне ды пажаданні з суправаджэннем гітары ці песень пра любоў. Сваю валянцінку атрымаў дырэктар аквапарку. Мы таксама дачакаліся сваіх зычанняўпадарункаў. Хто хацеў прыслухацца гэтаму, мусіў, на жаль, спыніцца каля кафетэрыі. Альжбета Валесюк, якая рыхтавала валянцінкавае мерапрыемства, кажа, што ў будучыні аквапарк пасправбуе яшчэ ўдасканаліць сваю прапанову святкавання Валянцінак. Можа ўдасца, каб паэзія, віншаванні ды музыка былі чутны і ў мокрай частцы басейна.

Слухаючы музыку ды паэзію можна было пасмакаваць ласункі, якія падрыхтаваў „Баярскі гасцінец” з Нараўкі, ды разагрэцца цёплай гарбатай ці кавай. Пазней мы ахвотна паплюхаліся ў вадзе і вярнуліся дахаты, расслабленыя і абноўленыя. Дык такое пачуццё рэдка нас ахапляе ў штодзённай занятасці.

Эва ВАШЧЫНСКАЯ

зорка
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# Конкурс пра вясну (11)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Калі ў старажытны час нашыя продкі адзначалі новы год?**

*а) 24 чэрвеня,*
*б) 25 сакавіка,*
*в) 13 студзеня.*

**2. Герб Беларсі, які ўшаноўваюць беларусы ў вольным свеце, гэта:**

*а) Пагоня,*
*б) Снапок збожжа,*
*в) Зубр.*

**3. Хто аўтар праекта сцяга БНР, абвешчанай у Мінску 25 сакавіка 1918 г.?**

*а) Марк Шагал,*
*б) Усевалад Ігнатоўскі,*
*в) Клаўдзій Дуж-Душэўскі.*

**4. Якая школа на Падляшшы ўпрыгожвае свой будынак бел-чырвона-белымі сцягамі ў Дзень волі - 25 Сакавіка?**

*а) Бельскі белліцэй,*
*б) Гімназія ў Нарве,*
*в) ПШ у Гарадку.*

Адказы дасылайце да 26 сакавіка 2012 г. (найлепш па электронай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 8:** На зломе зімы і вясны нашыя продкі адзначалі Масленіцу (в); Масленіцу адзначалі цыгам апошняга тыдня перад вялікім постам, з кульмінацыяй у чацвер (в); на Масленіцу каталіся на санках і гушкаліся на арэлях, будзілі мядзведзя (а і в); этнаграфічны спектакль у гонар вясны і абрад абуджэння мядзведзя, наладжаны ў Бандарах у час III Сустрэч „Зоркі" — „Масленіца ў наваколлі Бандароў" (б).

Узнагароды — ***CD Дзінь-Дзілінь: пара гуляць у казкі*** — выйгралі **Магдаліна Навіцкая** з Бельска-Падляшскага, **Аня Карчэўская** з Гайнаўкі, **Марцін Аварчук, Моніка Раманюк** з Арэшкава. Віншуем!

**ЗОРКА**



*Сябры з віленскай беларускай школы з настаўніцай Леакадзіяй Мілаш*

# ПАРА ГУЛЯЦЬ У КАЗКІ — 12 КАЗАК НА 12 ВЕЧАРОЎ




Такой прапановы яшчэ ў нас не было! Кожны, хто першы раз пачуе дзівосныя казкі Сержука Вітушкі, паўтарае адно: цуд! Іх хочацца слухаць, распавядаць пра іх знаёмым, вывучаць на памяць. Мова пра новы кампакт-дыск са *звонкім* загалоўкам „Дзінь-Дзілінь: пара гуляць у казкі". На ім 12 аўтарскіх казак, якія чытаюць вядомыя ў Беларусі людзі: літаратары (Уладзімір Арлоў, Андрэй Хадановіч, Адам Глобус), музыканты (Лявон Вольскі, Зміцер Вайцюшкевіч, Алег Хаменка, Алесь Камоцкі, Ганна Хітрык, Сяргей Сокалаў-Воюш), зоркі тэлебачання (Зінаіда Бандарэнка, Тамара Лісіцкая). Сярод галерэі знакамітасцей сустрэнем таксама Стэфана Эрыксана, пасла Швецыі, дарэчы, вялікіга прыхільніка беларушчыны.

Казкі Сержука Вітушкі — не проста казкі. Хоць яны напісаны пад традыцыйны лад, — тут процьма цмокаў, чарадзеяў і ўсякіх цудаў, — адначасова выклік сучаснага дня. Яны спрацоўваюць як беларускія дыдактычныя гульні. У іх элементы геаграфіі, гісторыі, этнаграфіі, фальклору, музыкі, архітэктуры. Пераказ, беручы пад увагу маладога чытача-слухача, узбагачаны народнымі прыказкамі, прымаўкамі, вылічанкамі, павер'ямі, песнямі. Напрыклад, у казачцы пра цмока Базылішка, які жыве сабе на Замкавай гары ў Вільні, пададзены народны рэцэпт як стаць ваўкалакам. Гэты магічна-архаічны абрад запісаў ужо старажытны гісторык Герадот. Дзякуючы падобным чарам, народ, які пражываў на нашай зямлі, быў непахісны, ваяўнічы, свабодалюбівы. У падборцы, меnavіта, захапляюць казкі на гістарычныя тэмы: пра герб, пра гімн і пра сцяг (казка пра сцяг належыць пяру і выкананню легендарнаму барду Сержуку Сокалаву-Воюшу). Кампакт-дыск з прыемнасцю можна слухаць зранку і вечарам. У ім столькі жыццярадаснай энергіі, вясновага настрою, колеру! Пачуеш такое — адразу свет становіцца прыгажэйшым, лепшым, цікавейшым. Казачкі выдатна дапамогуць цікава і годна адзначыць нам важнае свята: Дзень волі — 25 Сакавіка.

Кампакт-дыск узнік па ідэі Сяргея Харэўскага і Сяргея Будкіна. Асобную, сугучную старонку складаюць тут чароўныя малюнкі Міхала Анемпадыстава, якія можна глядзець таксама ў віртуальным варыянце. CD „Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі" выдала нядаўна Беларускае Радыё Рацыя.

# Вершы Віктара Шведа

## Хто усё ведае і бачыць?

Настаўнік Божага закона
Істоту святасці тлумачыць.
Пытае дзетак улюбёных:
— Хто усё ведае і бачыць?

Азваўся Ясь:
— Сцвярджае мама,
Што гэта наша суседка.
Бязмежная яе праграма,
Бачыць і чуе ўсё на рэдкасць.

## Сутачная машына

Запыталіся мужчыну
Аб скорасці аўтамашыны:
— Праязджае яна акурат
Кіламетраў сто пяцьдзесят.

— Дык гэтая твая руіна
Праедзе столькі за гадзіну?
— Не, уздыхнуў шафёр ціхутка,
Праязджае столькі ў суткі.

Казка пра Сцяг



Казка пра Герб



# Як людзі прагнявілі духа кукурузы

*(легенда індзейцаў аджыбба)*

Кажуць, бяда ўсяго навучыць! І як не дзіўна, бяду часта наклікае дабрабыт. У племені індзейцаў аджыбба з году ў год радзіла буйная кукуруза. Людзі насыціліся. Яны сталі пакідаць засевы на полі, каб там гнілі. Той-сёй пачаў карміць гатовай стравай з зерня кукурузы сабак. Калі чалавек жыве ў роскашы, заўсёды хочацца больш.

— Давайце пойдзем шукаць лепшага жыцця, — рашыў старшыня клана.

— Давайце!

Людзі спакавалі свае манаткі і рушылі следам звяроў, паляваць на аленяў і ласёў. План аднак не спрацаваў. На месцы аказалася, што стральцы страцілі зрок і не пацалялі ў звярыну. Калі скончыліся прыпасы кукурузы, людзі сталі галадаць. Тут жа ўспомнілі пра запасы кукурузы, якія перад выхадам у дарогу закапалі ў сваёй вёсцы.

— Ідзіце і прынясіце, што пакінулі на цяжкі час, — старшыня назначыў трох малойцаў.

Пайшлі. І вярнуліся з пустымі рукамі. Усе закапаныя прыпасы кукурузы з'елі мышы.

У нястачы людзі лямантуюць, б'юцца, сварацца. І тут адбываецца тое.

— За якія грахі так нас Усявышні пакараў?! — лямантавала грамада.

У племені жыў стары шаман, якога ў час дабрабыту адсунулі ад прэстыжнага паста. Ён заўсёды крытыкаваў чалавечую ненажэрнасць і марнатраўства. І цяпер тыя, што адмаўлялі яму ў кіраванні грамадой, укленчылі перад шаманам:

— Ратуйце нас, бацечка!

Стары нічога не сказаў, а на адвячорку адправіўся ў лес. Вандраваў ён доўга ці коратка, аж зайшоў у першабытны лес і адшукаў адну паляну. Там стаяў шалаш з бярозавай кары. Усярэдзіне ён пабачыў дзіўную карціну. На старых шкурах ляжаў знямоглы чалавек. Ён цяжка стагнаў, а з вачэй сачыліся слёзы.

— Паглядзі што людзі мне зрабілі? — прамовіў чалавек у шалашы. — Усё жыццё я спрыяў, дбаў пра іх сытасць, пра здароўе... А яны пачалі маім зернем карміць сабак!

Шаман зразумеў, што размаўляе з духам кукурузы. Ён нізка пакланіўся хвораму і паабяцаў навесці парадкі. Ён прынёс яшчэ хвораму збан вады і ўталіў яго смагу...

Пасля вяртання шаман расказаў аднапляменцам, што ўбачыў у лесе. Ён заставіў іх прызнаць сваю віну і пакляліся аднавіць сваё жыццё. Людзі закацілі рукавы і пайшлі чысціць загоны зарослыя буйным пустазеллем. Падрыхтавалі глебу. Калі кінулі ў заараную зямлю прыгаршчы зерня, што ацалела яшчэ са старых пасеваў, у небе зайграла сонца. Аджыбба пакланіліся яму і заспявалі старыя песні, тыя самыя, якія спявалі іх дзяды пры пасеве кукурузы.

Увосень кукурузачка абрадзіла. З той пары людзі сталі разумна гаспадарыць і шанаваць боскае зерне. І пабачылі, што адначасова ім стала шанцаваць на паляванні.

ЗОРКА

# Музыка з кайфам

## Блюз як лякарства

Калі доктар Хаўс дрэнна сябе адчувае, хутка бярэ сваё лякарства. Ведаюць гэта ўсе, што глядзелі амерыканскі серыял „Доктар Хаўс". Не кожны аднак ведае, што калі Х'ю Лоры, які выконвае галоўную ролю, сапраўды дрэнна сябе адчувае, неабавязкова бярэ пілюлі, а хутчэй за ўсё сядае за піяніна...

Пару апошніх гадоў Х'ю Лоры выступаў сябрам гурту „Band from TV". Назва не ўзялася з космасу, проста ў гурце выступалі акцёры розных тэлесерыялаў, з якімі Лоры сустракаўся на працы. Адпачывалі супольна, іграючы музыку. У гурце доктар Хаўс іграў на піяніна, хаця трэба дадаць, што надрэнна грае на саксафоне, губным гармоніку і гітары. Напэўна не грае на ўсіх адначасова, тым больш, што вырашыў пайсці сваёй сольнай дарогай і засяроджвацца на спеве. У мінулым годзе паказаўся яго альбом „Let them talk", у якім шырока прэзентуе сваю любоў да блюза. Альбом запісваў не толькі ў акцёрскім раі, у Лос-Анжэлесе, але таксама ў Новым Арлеане. Для некаторых гэты горад з'яўляецца сінонімам блюза, але Лоры знайшоў там таксама сабе, як гаворыць, вельмі блізкі рытм жыцця і працы. Варта дадаць, што ён сам не амерыканец, толькі ўраджэнец Вялікабрытаніі. Мабыць, краявіды Вялікабрытаніі нагадваюць яму Новы Арлеан. Мне яшчэ не прыйшлося гэтае праверыць, затое ведаю, якую прыемнасць будуць мець любіцелі блюза ўжо ў чэрвені гэтага года ва Усходняй Еўропе. Сам Х'ю Лоры прыедзе з канцэртамі ў Маскву, Кіеў ды Менск! Не ад сёння вядома, што Масква намнога цікавейшая заходнім зоркам, чым, напрыклад, Варшава. Тым больш цікавая гэта з'ява нам, бо скарыстаюць на гэтым беларусы. Відавочна беларускія сцэны адкрытыя на сусветныя зоркі, што ў нейкім сэнсе пярэчыць валікаму крызісу ў краіне. Як бачым на здымках, залы заўсёды там поўныя. Шкада, аднак, што адначасова закрываюцца пляцоўкі для беларускіх і перш за ўсё беларускамоўных выканаўцаў.

Усё ж такі пабачыць зорку тэлебачання ў зусім іншай, цікавай ролі, варта. Можна нават падумаць, што доктар Хаўс гэта лекар душы.

i_basovka@o2.pl

HUGH LAURIE LET THEM TALK

Лукаш МАРЧУК, Нараўка

## Мая начная мара

Раса яшчэ халодная,
Так прыемна ісці
па мокрым лузе!

## Барсучок

Барсучок зрабіў сабе норку
На высокім пагорку.
Нанёс сабе галінак
І трошкі зялёных раслінак.
Потым хацеў там сесці
Каб крышку пад'есці.
Калі пабачыў ён малінік,
Адразу глянуў на гадзіннік.
Ён меў часу нямнога,
Бо ўбачыў ваўка старога,
Які ішоў шукаць абед
І нюхаў барсуковы след.
Што ж рабіць?
Хутка ўскочыў барсук
У глыбокую норку
Што была на высокім пагорку.

# Польска-беларуская крыжаванка № 11

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 7:

Голуб, опера, драч, пушча, гушчар, вада, Нарва, мастак. Густ, пуд, душа, боршч, на, пачатак, вечар, карнавал.

Узнагароды, дыдактычныя гульні (па-беларуску) выйгралі **Карнелія Кавэцкая, Мартына Ляшкевіч** з Бельска-Падляшскага, **Кацярына Мучко, Мікола Бірыцкі** з Нараўкі, **Рафал Ваколюк** з Гайнаўкі, **Марцін Аврарчук** з Арэшкава, **Давід Трафімюк, Адрыян Залускі, Агата Беразавец, Магда Галёнка** з Нарвы. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Pastwisko / Dzieciak | | Dym / Przesmyk | | | | Mars | | | | |
| | | | | Dom / Aparat | | Maniera, styl | Satysfakcja / Pochód | | Zdanie / Rząd | |
| Szaman / Temat | | | | | | Para / Rachunek | | | | |
| | | | Przesmyk | | | | | | | |
| | Umy-walka | Statek parowy / Przód | | | | | | | | Dar |
| | Porada / Przejście | | | | | | | | Trzcina | |
| | Ara / Naleśnik | | | | Sukces | | | | | |
| Brat | | | | | Prąd | | | Ar | | |
| Prze-wodnik | | | | Tak | | | | Bo.. | | Ty |
| | | | Sok | | | | But | | | |
| Sugestia | | | | | | Buty | | | | |

*Новае выданне* Сяргей ЧЫГРЫН

# Шчырая сустрэча з „Белавежай”

Мае рацыю Ян Чыквін, які называе літаратурнае аб’яднанне „Белавежа” — Саюзам беларускіх пісьменнікаў Польшчы. Вось гэты саюз творчых беларусаў атрымаў летась новы падарунак — літаратурны альманах „Белавежа”*. Гэты падарунак „белавежцы” зрабілі не самі сабе, але для шырокага кола чытачоў, якім яшчэ неабыякавая беларуская літаратурная творчасць.

Шчыра скажу, я парадаваўся за альманах „Белавежа” не менш за тых, чые творы склалі гэтую кніжку. Я люблю і цаню „белавежцаў” за іх талент, адданасць роднаму слову, за беларускасць. Я ганаруся імі і буду заўсёды нізка перад імі кланяцца. Гэта розныя людзі па ўзросце: ад старэйшага і мудрага Георгія Валкавыцкага да таленавітай прыгажуні Кацярыны Сянкевіч. І прачытаў я альманах з вялікай радасцю і прыемнасцю. Прачытаў і адпачыў душой і сэрцам.




Наогул, пра літаратурнае аб’яднанне „Белавежа” можна ўжо пісаць і абараняць доктарскія дысертацыі. Шлях яно прайшло ўжо вялікі — ажно 54 гады. І шлях працягваецца, і на гэты шлях ступаюць усё новыя і новыя творцы-спадарожнікі, далучаюцца яны смела, апантана, ярка. Праўда, альманах „белавежцаў” даўно ўжо не з’яўляўся на свет. Затое асобныя зборнікі беларускіх літаратараў Польшчы выходзяць рэгулярна і чытаюцца даволі цікава, хаця хапае і ў іх слабых твораў.

Мне прыгадваюцца, і я маю іх у сваёй асабістай бібліятэцы, літаратурныя альманахі „Рунь” (1959), „Мой родны кут” (1963), тры кнігі „Белавежы” (1965, 1972, 1980), „Літаратурная Беласточчына” (1973), „Гасцінец” (1992), „Беларускія пісьменнікі Польшчы” (2000), „Букет Белавежжа” (2001), якія выдаваліся ў Польшчы і ў Беларусі. І вось новы літаратурны альманах „Белавежа” — шчырая сустрэча з беларускімі пісьменнікамі Польшчы. У прадмове да „Руні” Георгій Валкавыцкі — ініцыятар стварэння „Белавежы”, тады пісаў: „Беларускія літаратурныя сілы ў Польскай Народнай Рэспубліцы толькі што пачалі пускаць першыя парасткі; перад імі ўсе цяжкасці творчага станаўлення і няведаныя далі рамантычнага падарожжа, якое вабіць і насцярожвае. Трэба спадзявацца, што выданне гэтага зборніка прычыніцца да творчага ўзросту нашых аўтараў, будзе значным штуршком у прад’яўленні да самых сябе большай патрабавальнасці ў авалодванні літаратурным майстэрствам, і гэтым самым унясе каштоўны ўклад у развіццё культуры нашай народнай краіны. З тым большай упэўненасцю можам аб гэтым гаварыць, калі ўлічым факт, што дагэтуль на Беласточчыне не выйшаў ніводзін паэтычны зборнік. Тое, што мы першымі выйшлі абрабляць паэтычныя аблогі, павінна дадаць нашым паэтам бадзёрасці ў пошуках сваёй папараці-кветкі”. Цяпер так сказаць нельга, бо першыя парасткі „Белавежы” даўно далі і даюць добрыя творчыя ўраджаі, а маладыя ад іх не адстаюць, а ў нейкай ступені нават перасягаюць. І тая задумка Георгія Валкавыцкага аб стварэнні ў Польшчы „Белавежы” не была марнай і часовай, а дае плён і сёння: у Польшчы выдаюцца беларускія кнігі, ладзяцца прэзентацыі, вечары, сустрэчы, семінары, творы „белавежцаў” перакладаюцца на розныя мовы, некаторыя ўвайшлі ў школьныя падручнікі і вывучаюцца ў школах. Знаючы, спадар Валкавыцкі тады не памыліўся, а глядзеў далёка наперад з надзеяй, што з творчых беларусаў Польшчы будзе толк. Так яно і атрымалася.

Распачынаецца новы літаратурны альманах „Белавежа” ўспамінамі Георгія Валкавыцкага, які хутка адзначыць сваё 89-годдзе. Гэта невялікія згадкі пра маму, а таксама ўрывак з кнігі „Віры. Нататкі рэдактара”, дзе старэйшы беластоцкі „белавежац” прыгадвае пачатак стварэння літаб’яднання і людзей, якія стваралі беларускі тыднёвік „Ніва”, а на яго старонках друкавалі свае першыя літаратурныя творы.

Побач з беларускім літаратурным аксакалам Георгіем Валкавыцкім у альманаху друкуюцца творы не менш паважаных, таленавітых і шаноўных Віктара Шведа, Васіля Петручука, Дзмітрыя Шатыловіча, Алены Анішэўскай, Яшы Бурша, Алеся Барскага. Усім ім ужо за 80, але ў творчасці яны застаюцца маладымі майстрамі слова, адкрывальнікамі новага, цікавага і непаўторнага. Бо яны ў сваім жыцці неадзінокія, як піша Віктар Швед „не адзінокі я, струёй шырокаю паэзія бруіцца...”. Так, у іх душах бруіцца літаратура, магчыма яна іх лечыць, суцяшае і дапамагае доўга жыць. Таму і прыклад нам, маладзейшым, ёсць у каго браць. І калі я чытаю творы старэйшых беларусаў „Белавежы”, прыгадваюцца радкі Янкі Сіпакова з ягоных успамінаў „Мая бібліятэка”: „Мы ішлі ў літаратуру не па адным. Мы ўрываліся ў літаратуру ўсе разам — гуртам, выраем, моцнаю хваляю, усім пакаленнем. Нам так было зручней, цікавей, весялей, радасней. І чым больш было ў нас паплечнікаў, тым упэўненей мы сябе адчувалі: расце наша родная літаратура! Заўсёды думалі мы не толькі пра свае творы, але і пра літаратуру”. Усе разам беларускія літаратары Польшчы стварылі 8 чэрвеня 1958 года літаб’яднанне, якім могуць ганарыцца і сёння. А вось у Беларусі многія літаратурныя аб’яднанні, якія існавалі ў абласных і раённых гарадах дзесяткі гадоў, проста зніклі, а літаратары кожны па-свойму цугляе Пегас адольваючы літаратурны Парнас.

Добра, што ў літаратурным альманаху „Белавежа” апублікаваны здымкі пісьменнікаў і іх біяграфіі, а таксама ці не ўпершыню даюцца звесткі пра іх літаратурныя псеўданімы, якіх нават няма ў „Слоўніку беларускіх псеўданімаў” (Мінск 1983) Янкі Саламевіча. Наогул, беларускія пісьменнікі сталі карыстацца псеўданімамі яшчэ з XVI стагоддзя. Гэта былі пераважна пісьменнікі-палемісты, якія выступалі супраць каталіцызму, супраць уніі. Ва ўмовах жорсткай рэлігійна-класавай барацьбы, фанатычна неверагодных ганенняў на ідэолагаў праваслаўя ў Рэчы Паспалітай XVI-XVII стагоддзяў выкарыстанне псеўданімнага і ананімнага выдання палемічных твораў было адзіным ратункам ад суда і кары смерцю. Так, напрыклад, у Брэсце ў 1564 годзе была выдадзена ананімна прагрэсіўная на той час брашура „Размова паляка з літвінам пра тое, што ёсць права, вольнасць, або свабода, і пра унію кароны Польскай з княствам Літоўскім”. Чытаючы „Белавежу” я даведаўся, хто такія Адоль Кастрыца, Колька Сплюх, Ларс, Ігнат Снарскі, Алесь Чабор, Станіслаў Ян, Андрэй Самасей, Сідар Макацёр, Рыгор Лясун, Янка Дубіцкі, Павел Бельскі і г.д. Акazваецца такімі псеўданімамі карысталіся Сакрат Яновіч, Юрка Геніюш, Мікола Гайдук, Аляксандр Баршчэўскі, Якаў Анісоровіч, Віктар Швед, Георгій Валкавыцкі, Ян Чыквін. Маладзейшае пакаленне „белавежцаў” псеўданімы амаль не выкарыстоўвае.

Шмат гадоў узначальвае літаб’яднанне прафесар Ян Чыквін. Ён у 1990 годзе быў ініцыятарам выдання бібліятэкі „Белавежы”, дзе ўжо выйшлі з друку 83 беларускія кнігі, у тым ліку і літаратурны альманах „Белавежа”. Ян Чыквін сапраўды для літаб’яднання і яго сяброў робіць у Польшчы шмат. Ён не толькі быў і застаецца паэтам-наватарам у літаратуры, але і наватарам у прапагандзе беларускага літаратурнага слова ў Польшчы і па-за яе межамі. „Я тое, што не згіне”, — пісаў ён у адным са сваіх ранніх вершаў. Сапраўды, не згіне і тое добрае, што робіць прафесар Чыквін.

Творчасць самабытнага празаіка лірычнага складу Сакрата Яновіча адметная, як пісаў Пятро Васючэнка, нечаканымі пераходамі і неспадзяванкамі. Цяжэй у творах празаіка пераадольваюцца страхі жыцця. Чаму так — адказ шукаю ў ягонай прозе: „Веру ў жыццё, смерць яго і ўвасхрашэнне. І ў вечнае, бо бязмежнае. І ў чалавека. І ў свет — веру!”.

З празаічнымі жыццёвымі разважамі ў літаратурным альманаху выступаюць Янка Целушэцкі, Міра Лукша, Міхась Андрасюк, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Яўген Вапа, Алена Анішэўская і іншыя.

Падборка вершаў Віктара Стахвюка адкрываецца яго жыццяпісам. На маю суб’ектыўную думку гэты жыццяпіс не пасуе да альманаха, тым болей, што ў кнізе надрукавана і кароценькая яго біяграфія, якой хапіла б да падборкі добрых вершаў паэта, які „міг гэты прагна п’е” і жадае „апошняй птушкай у ключы паляцець у вырай”. Да птушак звяртаецца ў сваіх філасофскіх вершах і Галіна Твардановіч, бо насамрэч, „вялікай птушцы знаць: пакрысе спеюць высі і крылы крэсляць ШЛЯХ”. А вось птушкі і крылы вершам-роздумам Лідзіі Маліноўскай не патрэбны, бо паэтка „ўзлятае без крылаў”, дзе наўкола „разнаколерныя воблакі... і яркае сонца”.

Уладзімір Саўчук, Жэня Мартынюк, Юрый Баена, Міра Лукша, Міхась Андрасюк народжаныя ў другой палове 1950-х. Адчуваецца, што гэта пакаленне моцна настальгуе па маладосці, па тым часе, калі шчасна і светла жылося ў бацькоўскіх хатах, калі грэла „святло дзяцінства” (Жэня Мартынюк), калі „вёска танула ў мелодыях песняў” (Юрый Баена), калі „шукалі кожны з нас мы шчасця незямнога” (Міра Лукша), бо цяпер вельмі часта „ажывае свядомасць пражытых гадоў” (Уладзімір Саўчук), „сніцца дурная маладосць, песні-красуні і віно” (Міхась Андрасюк) і сняцца мамы, якія ткуць і вышываюць „задушэўнай ласкай, цёплаю журботай, песняю сваёй” (Жэня Мартынюк).

Ну, а цяпер пра самае прыемнае, што надрукавана ў альманаху „Белавежа”. Гэта вершы маладых беларускіх паэтаў Польшчы — Юркі Буйнюка, Юстыны Кароль, Віялеты Нікіцюк і Кацярыны Сянкевіч. Толькі юная Віялета Нікіцюк яшчэ не мае свайго ўласнага зборніка вершаў, але гэтая радасць у яе наперадзе. Затое як яна сур’ёзна, геніяльна і мудра разважае ў сваіх паэтычных страфах:

*Хочацца мне ўзысці на Парнас*
*Сустрэцца з зоркамі сусвету*
*.........................................*
*Побач Гарацыя*
*стаць свабоднае крэсла.*

Вершы Юркі Буйнюка, Юстыны Кароль і Кацярыны Сянкевіч здзіўляюць сваёй смеласцю-разважаннямі аб нашым няпростым жыцці, яны арыгінальныя і кранальныя, простыя і разнастайныя паводле тэматыкі і формы. Паэты шматабяцальныя і гэта радуе.

Складальнік альманаха ўключыў у кнігу і творы тых аўтараў, якіх ужо няма на гэтым свеце. Гэта Янкі Жамойціна, Міколы і Уладзіміра Гайдукоў, Юркі Геніюша, Міхася Шаховіча. Мініяцюра Юркі Геніюша „Смыком па сэрцы” пачынаецца так: „Навошта ў чалавеку струны існуюць? Закрані абы-якую — гул ідзе. Вясёлую — і рогат півам пеніцца. А калі сумную — кіпцюры па сэрцы заскрабуць...”. З мелодый розных літаратурных струн складаецца і беларускі альманах „Белавежа” з Польшчы. То сумныя гэтыя мелодыі, то радасныя, то выразныя, то ціхія, то філасофскія, то простыя... Але так і павінна быць.

**Літаратурны альманах „Белавежа”*, рэд. Ян Чыквін, Беласток 2011, 196 с.

**Другі дзень пасяджэння Супольнай камісіі ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей (СКУіНіЭМ) у Беластоку здамінавалі справы датычныя дыскрымінацыі нацыянальных меншасцей, а асабліва акты ксенафобнага характару, да якіх дайшло ў мінулым годзе на Падляшшы — у Беластоку, Ядвабным, Крынках, Орлі і Пунску.**



Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# У хаце вяселле, а нам сумна

Аб праблемах, якія абмяркоўваліся камісіяй у першым дні абрад пісалі мы тыдзень таму (аб апасках за сумленную апрацоўку даных сабраных Галоўнай статыстычнай установай (ГСУ) у час мінулагодняга нацыянальнага перапісу ды месцы меншасці ў публічных радыёвяшчанні і тэлебачанні). Другі дзень пачаўся кароткім выступленнем падляшскага ваяводы Мацея Жыўны. Спаслаўся ён на ксенафобныя здарэнні з мінулага года:

— Мы стварылі м.інш. зінтэграваную групу мундзірных службаў па справах бяспекі нацыянальных меншасцей. Пры такіх здарэннях сіла можа быць толькі ў еднасці.

Прадстаўнікі беластоцкай Ваяводскай камендатуры паліцыі былі згодныя:

— Мы гэта называем інцыдэнтамі, але звязанымі з ксенафобіяй. Выяўленне віноўнікаў інцыдэнтаў накіраваных супраць меншасцей для паліцыі з'яўляецца прыярытэтам.

У другой палове 2011 года падляшская паліцыя абучыла 1250 функцыянераў адносна злачынстваў звязаных з нянавісцю м.інш. у адносінах да нацыянальнасцей іншых чым польская. Паліцыянты ўдзельнічалі таксама ў 114 сустрэчах з вучнямі, тлумачыўшы гэтую праблематыку. Кругласутачна працуе паліцыйны тэлефон (таксама на англійскай мове), на які можна заяўляць пра інцыдэнты такога тыпу. Пры Ваяводскай камендатуры паліцыі (ВКП) працуе таксама ўпаўнаважаны па справах захоўвання правоў чалавека. Начальнік следчага аддзела ВКП, заадно кіраўнік спецыяльнай следчай групы Дар'юш Матвейчук паінфармаваў, што над высвятленнем леташніх здарэнняў працуе спецыяльная аператыўна-следчая група, у склад якой уваходзяць таксама функцыянеры Агенцтва дзяржаўнай бяспекі (АДБ). Прызнаўся ён, аднак, што да гэтага часу ўдалося выявіць віноўнікаў толькі аднаго здарэння — намалявання антыяўрэйскіх надпісаў на сінагозе ў Крынках. Было затрыманых пяць асоб, а справу вядзе беластоцкая Акруговая пракуратура. Адначасова дадаў, што тая самая пракуратура спыніла расследаванне наконт падпалу ў Беластоку кватэры пакістанска-польскай сям'і ды знішчэння зоркі Давіда з кустоў самшыту на былым яўрэйскім могільніку ў Беластоку:

— У іншых справах вядуцца дзеянні: дапытваюцца сведкі, вылучаюцца віноўнікі, праводзяцца вышукі, прымаюцца розныя следчыя версіі.

Не скрываў прытым:

— Я не змагу гарантаваць, што гэтых віноўнікаў зловім зараз жа.

Члены камісіі былі здзіўлены тым, што прадстаўнікі ВКП сказалі што мелі сказаць і выйшлі з залы. Не далі шанцаў, каб паставіць ім пытанні. Праз момант, прыкліканыя службамі ваяводы, паліцыянты вярнуліся.

Артур Канапацкі з Саюза татараў РП пытаўся ў іх, здаецца, рытарычна:

— Чаму следствы працягваюцца так доўга, асабліва пры ўдзеле АДБ? Гэта не былі атакі нейкай разведкі, толькі мясцовых. Прытым для высвятлення гэтых спраў прыменены вялікія сродкі.

Начальнік Матвейчук прабаваў тлумачыцца:

— У выпадку Ядвабнага (антысеміцкія надпісы на помніку яўрэйскім ахвярам — М. Х.) маем недахоп супрацоўніцтва з мясцовай грамадскасцю. Былі нават разыходжанні адносна гадзін, калі былі намаляваны надпісы. У выпадку Маршу адзінства ў Беластоку (група ў пару дзесятак асоб выкрыквала ксенафобныя і нацысцкія лозунгі пры нагодзе маршу супраць актаў ксанафобіі на Падляшшы — М. Х.) наступае персаналізацыя асоб. Неабходна вызначыць, якая асоба і дэталёва якія словы выказвала і адказаць, ці былі гэта заклікі да нянавісці.

Рафал Бартэк, генеральны дырэктар Дома польска-нямецкага супрацоўніцтва спаслаўся на падобныя выпадкі на Апольшчыне, накіраваныя супраць нямецкай меншасці:

— Мы з зайздрасцю глядзім, як да гэтай пары на гэтыя здарэнні рэагавалі на Падляшшы. На жаль, і тут гэтыя дзеянні кваліфікуюцца як хуліганскія выбрыкі, без шырэйшага кантэксту.

Агнешка Казлоўская-Раевіч, упаўнаважаная прэм'ера па справах роўнай трактоўкі адзначыла:

— Змена свядомасці патрабуе часу.

З трывогай дадала:

— На жаль, шмат спраў спыняецца судамі, хоць паліцыя выяўляе віноўнікаў.

Успомніла аб праграмах, якія супрацьдзейнічаюць актам ксенафобіі і дыскрымінацыі меншасцей ды прадбачыла, што будуць праводзіцца абучэнні чыноўнікаў, у тым ліку самаўрадаўцаў, як спраўляцца з праблемамі захоўвання правоў меншасцей і актамі ксенафобіі ці шырэй нянавісці на нацыянальнай глебе:

— З даных вынікае, што Польшча з'яўляецца талерантнай краінай, хоць менш у адносінах да, напрыклад, ромаў.

Як аказалася ў час сустрэчы, з даных Міністэрства ўнутраных спраў вынікае, што ў 2011 г. зафіксавана 85 спраў, якія могуць мець характар нянавісці на нацыянальнай глебе, найбольш у адносінах да яўрэяў і ромаў.

Пятро Тыма, старшыня Саюза ўкраінцаў у Польшчы:

— Да шматлікіх малых мястэчак і вёсак гэтыя праграмы не даходзяць. Паліцыя выканала нейкую працу, але ў шмат якіх выпадках маем дзяржаўную немач. Для меншасцей адведзены публічныя сферы, у якіх могуць толькі пяяць ды танцаваць.

Галена Дуць-Файфер, віцэ-старшыня Згуртавання лэмкаў пры нагодзе прывяла словы Сакрата Яновіча:

— „У хаце шалее вяселле, а мне нейк сумна". Кожная меншасная група каланізуецца пастаянным дыскурсам.

У пастанове наконт выпадкаў дыскрымінацыі меншасцей члены камісіі м.інш. напісалі: „Змен патрабуе надалей пазіцыя дзяржаўных устаноў у адносінах да эскалацыі расісцкіх і ксенафобных паводзін, да якіх з гадамі падыходзілі пасіўна (...). Як польскія грамадзяне, члены меншасных грамадскасцей, лічым неадпаведным прымянянне блага зразуметага прынцыпу ўзаемнасці ў двухбаковых адносінах з суседзямі РП пры нагодзе вырашання праблем палякаў у гэтых краінах. Спадзяемся, што ўзнікне ўрадавая праграма дзеля адабрэння нацыянальных і этнічных меншасцей".

У чарговай частцы сустрэчы абмяркоўваліся пытанні звязаныя з ведамі аб нацыянальных і этнічных меншасцях у польскай сістэме асветы, якія прадставіла Гражына Плашайская з Міністэрства нацыянальнай адукацыі. Тут Галена Дуць-Файфер вярнулася да праблемы дыскурсу:

— Меншасны дыскурс не існуе ані ў СМІ, ані ў асвеце. На польскіх філалогіях (па-за Ягелонскім універсітэтам) няма заняткаў па меншаснай літаратуры. Павінны яны быць, ды не маем спецыялістаў.

Рыгор Купрыяновіч, старшыня Украінскага таварыства:

— Недастатковымі з'яўляюцца веды аб меншасцях, і гэта вынікае з недахопаў у сістэме асветы. Павінен быць асобны прадмет па гэтай праблематыцы і павінен мець ён рэгіянальны кантэкст.

Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў РП:

— Будзе штораз горш, бо сітэма адукацыі даводзіць да маргіналізацыі веды аб гэтай дзяржаве, у тым ліку і аб меншасцях. Гэта бярэцца са слабасці адукацыі агулам (...). Ніякая меншасць не прыме ўдзелу ў конкурсе, у ніякіх таргах (тут спасылка на конкурсы і таргі арганізаваныя м.інш. МНЭ — М. Х.). Мы ездзім на самакаце, а прапануецца нам праехацца на аўтамабілі Формулы I.

У пастанове адносна асветы заяўлена: „Пастулюем увядзенне пастаяннага маніторынгу навучання аб меншасцях, вядзенага МНЭ і куратарыямі".

У пункце датычным рэалізацыі Польшчай рашэнняў Еўрапейскай карты рэгіянальных і меншасных моў, Дабеслаў Жэмянеўскі, начальнік аддзела нацыянальных і этнічных меншасцей у такім жа дэпартаменце Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, спаслаўся на пазіцыю Камітэта экспертаў па справах Карты пры Радзе Еўропы, якія заявілі, што публічныя ўлады ў Польшчы вядуць малаактыўную дзейнасць у заахвочванні да карыстання меншаснымі мовамі. Нявыключана, што згодна з запісамі Карты, патрэбная будзе змена ў законе, уводзіўшая не як дагэтуль 20-працэнтны парог, а 10-працэнтны, у гмінах у якіх пражывае меншасць, дзякуючы чаму можна будзе і ў іх ставіць м.інш. двухмоўныя табліцы з назвамі мясцовасцей:

— Рада Еўропы звяртае ўвагу на рэалізацыю ў практыцы запісаў Карты, а не толькі на факт яе прыняцця.

У пастанове датычнай Карты, камісія адзначыла: „Неабходым з'яўляецца ўзгадненне і рэалізацыя стратэгіі распаўсюджвання і прамоцыі шматкультурнасці ў польскім грамадстве, асабліва праз сістэму асветы і СМІ".

У другі дзень абрад супольнай камісіі вярнулася таксама справа ўдзелу меншасцей у публічных праграмах радыёвяшчання і тэлебачання. Лукаш Гжэндзіцкі, старшыня Кашубска-Паморскага згуртавання:

— У праграмных радах публічных СМІ павінны быць асобы, якія выводзяцца з меншасных асяроддзяў.

Пастаўлена было таксама пытанне зямель, за якія ў Агенцтве сельскагаспадарчага рынку не могуць старацца жыхары Гацькоў, Райска і Храбалоў, што спрычыніцца да змены мясцовай структуры ўласнасці. Яўген Вапа — ад імя прысутных у зале жыхароў гэтых мясцовасцей — патрабаваў пісьмовага адказу на ліст накіраваны ў гэтай справе ўраду, які ўжо ад даўжэйшага часу застаецца без адказу. Владзімеж Карпінскі, сустаршыня камісіі, віцэ-міністр Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі запэўніваў, што справу высветліць. У сваю чаргу Ян Сычэўскі, старшыня БГКТ, меў жаль — як сказаў — да падляшскіх самаўрадаў, што пакінулі без адказу просьбу на сфінансаванне альбома, прысвечанага пасляваенным ахвярам рэпрэсій:

— Высокапастаўлены чыноўнік самакіравання спытаўся ў мяне ў гэтым кантэксце, чаму мы хочам *jątrzyć*.

Ян Сычэўскі меў такама жаль да МАіЛ, што ў чарговы раз (раней МУСіА) не дало грошай на канферэнцыю „Шлях да ўзаемнасці" і фестываль „Беласток — Гродна".

Ценем на пасяджэнні супольнай камісіі (дарадчыцка-кансультатыўны орган прэм'ера) у Беластоку лягла яго арганізацыя. Каб дабрацца на час, некаторыя члены камісіі мусілі надосвітку выбірацца з аддаленых на сотні кіламетраў мясцовасцей у Польшчы. У Падляшскай ваяводскай управе (ваявода з'яўляецца прадстаўніком урада ў глыбінцы), незалежна ад шматгадзінных абрадаў, гарантавалі ім толькі гарбату і каву. Апрача таго некалькі з іх ноччу мянялі пакоі ў гатэлі, дзе іх закватаравалі, паколькі з-за ўмоў немагчыма было ў іх заснуць.



Іаанна ЧАБАН

# З крынкаўскіх эпізодаў

*— Аська, я ўвогуле не задумваўся над справамі, пра якія мы тут гаворым. Жыў хвілінай, сённяшнім днём, — прызнаўся мой сусед Віцька, таксама як і я, 1974 года нараджэння. — Сустрэчы з табою пераварочваюць мой сённяшні лад жыцця. Пачынаю бачыць тое, што здавалася зусім не існаваць. Ты мяне проста накручваеш. Правалій я многа вельмі важных жыццёвых рашэнняў. Ужо іх не адкруціш. Часу назад не перапхнеш. Мая маці таксама пра важнасць гэтых спраў мне ў ранняй маладосці талкавала і толькі цяпер я зразумеў, што не памылялася. Ты вельмі добрую справу робіш і напэўна ўсё выйдзе так як трэба. Прызнаюся, што зайздрошчу табе рашучасці. Калі б я апынуўся ў тваім становішчы, адразу здаўся б. Колькі табе тут калодаў пад ногі кідалі, каралі, мсціліся. Я ўжо б за гэты час з пяць раз напрамак дзейнасці памяняў, а ты — далей сваё, пад горку, наперад! Мушу цябе завезці на недалёкі хутар да бабы Соні. Яна вельмі гаваркая і цікавыя аповеды снуе, а як трэба, то і заспявае. Такой душы кампаніі — са свечкай шукаць! А тут, на Пагулянцы, жыве стары Косцік, з дзеда-прадзеда крынчанін, ён нават легенды пра паўстанне Крынак ведае. Я з ім добра знаёмы, раней разам у лесе працавалі. Столькі ён мне нараспавядаў! А як ён спявае!.. Раз мне хваліўся сваёй двухсотгадовай шопкай. Я нават туды ўсярэдзіну залез, захапіўся старадаўнімі нізкімі дзвярыма, здаравеннымі, цяжкімі. Тады яшчэ страхой шопка была пакрыта. Ты не адкладвай, зараз да Косціка ідзі, пакуль яшчэ жывы!*

*Так я і забегла пад перададзены мне Віцькам адрас. Стукала ў дзверы і акно — ніхто не адчыняў. Падалася я ў бліжэйшую краму, якая, на маю думку, павінна быць не толькі цэнтрам продажу неабходных тавараў, але таксама і інфармацыі. Дзякаваць Богу, там якраз сабралася нямала інфарматараў, у тым ліку і лістаноша. Усе згодна адказалі, што Косцік у хаце сядзіць, замкнёны. Ён ніколі дзвярэй не адчыняе, гэтым займаецца яго жонка, якая цяпер напэўна ў цэнтры горада гуляе. Параілі, каб дабівацца да Косціка недзе зранку або ўвечары. А яшчэ падказалі, каб сходзіць да Зіны 1915 года нараджэння, якая з апякункай тут непадалёк дажывае — там мне найбольш раскажуць пра даўнішнее.*

*Усё ж такі спачатку я рашыла заняцца Косцікам. У восем раніцы на наступны дзень я ўжо была пад яго дзвярыма. З хаты выглянула Косцікава жонка, з якой я спрабавала дамовіцца на візіт. Яна вельмі ненадзейна ставілася да маёй задумы назначэння Косціка героем крынкаўскіх гістарычных сюжэтаў, але па дабрыні свайго сэрца запрасіла мяне ў госці на апошні, зімовы, прашчальна-нядзельны поўдзень.*

*Паявілася я ў дагавораны час, на пятнаццаць хвілін раней, рада, што запоўню свой новы дыктафон і сшыткі каштоўнымі ўнікальнымі ўспамінамі. А мо гэты чалавек будзе нешта ведаць пра Глухога Доктара, можа што распавядзе пра Янку Генюша?*

*Косцікава жонка падсунула мне мяккія тапці, каб я не змерзла ў ногі, пачала запрашаць на пакоі. Салонамі я не была зацікаўлена, таму што мой герой сядзеў за кухонным сталом і не думаў зрушыць рухацца. Не толькі рухацца, але і сядзець было яму пакутай — яго ныя рукі і ногі дрыжалі, на твары малявалася знеахвочанне, абыякавасць. Косцік на польскай мове адмаўляўся ад усякіх размоў. Ні гаварыць, ні спяваць не хацеў. Усялякія заахвочванні, намовы і падмовы жонкі таксама былі безвыніковыя. Адказваў коратка і па-польску. На маё пытанне, чаму ён карыстаецца ў маім выпадку пальшчызнай і ці менавіта на гэтай мове тут, у горадзе, калісь гаварылі, лаканічна спасылаўся на сумеснае існаванне ўсялякіх моў. Гэта была мая першая сустрэча з Косцікам, таму зусім зразумела, што прыняў мяне за чужую, бо зараз дадаў, што палякі заўсёды абражаліся, калі да іх загаворыш па-простаму. Тлумачыў, што такую неспрыяльную сітуацыю стварыў касцёл — самая важнейшая выхаваўчая ўстанова ў Крынках. Я рашыла, што даўжэй мучыць чалавека няма сэнсу. Жонка пачала апраўдваць Косціка расказамі пра цяжкую хваробу, якая ўжо дваццаць пяць гадоў яго забівае. Паказала баначкі напоўненыя ўсялякімі таблеткамі, якіх увесь ён і глытаць не хоча. Не хацела адпускаць мяне з пустымі рукамі. Запрапанавала мне паглядзець касету з вяселля дачкі, засунула ў кішэню мяшочак шакаладных цукерак. На канец параіла падацца да суседзяў, пары пажылых людзей, якія яшчэ ў змозе са мною пагаварыць. Мабыць, Косцікава жонка ў глыбіні душы баялася, што я займаюся нейкай палітыкай, бо зараз спыталася, што мяне найбольш цікавіць і што я там запісваю ў гэтых сшытках. Разагнаўшы ўсялякія страхі і падазрэнні і перапрашаючы за недахоп часу паглядзець вясельны відэазапіс, я падзякавала за ахвоту і гасціннасць. Косцікава жонка адвяла мяне да драўлянага плота, каб паказаць бачную згэтуль хату пажылых суседзяў, да якіх я адразу падалася.*

*На жаль, і тут дзвярэй ніхто адчыняць не збіраўся. Напэўна, спалохаліся незнаёмай або падумалі, што іегавістка прыйшла іх турбаваць. А, можа, цёмны халодны поўдзень паўплываў на іх дэпрэсію.*

*Засталося яшчэ мне адшукаць хату Зіны 1915 года нараджэння. Пошукі я рашыла адкласці на наступны дзень.*

*Панядзелак — першы дзень Вялікага посту быў таксама цёмны і халодны. Вельмі змерзла я ў ногі, стоячы на клірасе неабагравалай царквы. Вячэрня ўжо канчалася, стала зусім цёмна, людзі і іконы захуталіся ў чорныя хусткі і шарфы. Раптам шырока раскрыліся ўваходныя дзверы, у якіх паявіліся жанчыны з букетамі абвязанымі чорнымі стужкамі. На сярэдзіну царквы ўнеслі труну з Зінай 1915 года нараджэння.*




# http://litaratura.org

Перакладчыцкая справа шмат каму ўяўляецца адной з найбольш цяжкіх у інтэлектуальным плане. Галоўнае ў кожным перакладзе, асабліва калі ідзе пра нейкі мастацкі твор ці жывую гутарку, гэта не дакладны пераклад кожнага слова ці нават сказа, а перадача найбольш адпаведнага арыгіналу сэнсу прамоўленага з усімі яго адценнямі, нават эмацыйнымі. Зрабіць гэта ўдаецца далёка не кожнаму чалавеку, які называе сябе перакладчыкам. З таго і пераклады бываюць добрыя ці кепскія — у залежнасці ад таго, наколькі поўна здолеў перакладчык перадаць сэнс з адной мовы на іншую.

У літаратуры, што друкуецца па-беларуску, пераклады з іншых моў маглі б займаць большы сегмент, чым ёсць на даны час. Напрыклад, у кнігарнях не так часта сустрэнеш кнігі сусветна вядомых майстроў пяра, апублікаваных па-беларуску. У такіх варунках звычайнаму чалавеку можа здацца, што пераклады на беларускую мову — гэта нешта далёкае, адарванае ад жыцця.

Але такое ўяўленне з лёгкасцю перакрэслівае сайт Літаратура.org, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://litaratura.org**. Гэта праект, які, згодна з пададзенай на ім інфармацыяй, ініцыяваны вядомымі літаратарамі і перакладчыкамі Янам Максімюком і Сяргеем Шупам.

Выяўленне галоўнай старонкі сайта даволі арыгінальнае. Яна падзеленая на дзве часткі, але ў адрозненні ад звычайнага ўяўлення, дзе важнае знаходзіцца злева, тут больш прэзентацыйнай з'яўляецца правая частка. Менавіта там месцяцца партрэты аўтараў сайта, іх апошнія перакладчыцкія працы.

Левы бок галоўнай старонкі змяшчае пачаткі перакладзеных тэкстаў. Трэба разумець, што гэта якраз і ёсць узгаданы справа літаратурныя расповеды.

Вельмі арыгінальныя назвы рубрык „Чытальня", „Вітальня", „Старажытня", „Дзівотня" з'яўляюцца своеасаблівым тэматычна-жанравым дзяленнем перакладзеных твораў.

Беларуская сціплаcць прымусіла згадаць пра сябе і на Літаратуры.org. Адказы на пытанні — з якой нагоды з'явіўся гэты сайт, што распавядаюць пра сябе і сваіх мэтах яго стваральнікі, мы знойдзем не адразу. Для гэтага трэба зазірнуць у самы ніз цэлага выяўлення. Менавіта там месцяцца выйсці на старонкі, дзе распавядаецца пра перакладчыкаў, некаторыя іх жаданні і прапановы.

Пэўна з таго, што ад перакладаў рэдка патрабуецца лаканічная перадача зместу, стваральнікі сайта перанеслі такое стаўленне і да яго прэзентацыі. На іх думку, 12 старонак інтэрв'ю інтэрнэт-часопіса „Прайдзісвет" у рубрыцы „Пра нас" мусяць ва ўсіх колерах і дэталях раскрыць сутнасць Літаратуры.org, пазнаёміць наведвальніка сайта з планамі вышэйзгаданых перакладчыкаў і галоўнага „будаўніка" сайта Аляксандра Максімюка. Больш кароткі тэкст аб аўтарах і іх сайце месціцца на гэтай жа старонцы пад аўтарствам Яна Максімюка. „Нам захацелася зрабіць сайт, прысвечаны стваранню мастацкіх тэкстаў/перакладаў на беларускай мове і ўсяму іншаму, што гэткаму занятку можа спадарожнічаць — абмеркаванню пісьменніцкіх/перакладчыцкіх поспехаў і паразаў, як сваіх, так і чужых", — кажа ён.

На іншых рубрыках, змешчаных унізе выяўлення, распавядаецца аб магчымасцях і спосабах супрацоўніцтва з іншымі літаратарамі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Скарбы Беларусі

### Шчучынскія піяры

Шчучын — на першы пагляд — адзін са звычайных беларускіх раённых цэнтраў. У савецкі час ён вельмі моцна русіфікаваўся, прычынай таму быў вялікі аэрадром і адпаведна лётная армейская частка, дзе служылі людзі „перекати-поле". У Шчучыне быў забудаваны цэлы вайсковы гарадок. Гэта быў нібы асобны горад у горадзе. А вось некалі Шчучын быў слаўны сваёй навучальнай установай, якая існавала пры мясцовай місіі ордэна піяраў. Бальшыня сённяшніх насельнікаў райцэнтра, напэўна, і не ведае пра такую адметную старонку сваёй мясцовасці. Назву горада, дарэчы, яшчэ ў маім дзяцінстве людзі старога веку вымаўлялі як „Шчуцін". Новыя пакаленні так ужо не кажуць.

Слова „піяр" зараз трывала ўкаранілася ў лексікон як прыстаўка да азначэння медыйных тэхналогій і мае на сёння пераважна негатыўнае значэнне. Што ж датычыць каталіцкага манаскага ордэна піяраў, то ён быў заснаваны іспанскім святаром Хасе дэ Каласанцам. Гэтым місіянерам былі ўведзены новыя прынцыпы выхавання моладзі, паводле якіх школа мусіла клапаціцца пра маральнасць вучняў. На беларускія землі закон піяраў прыйшоў у сямідзесятых гадах XVII ст., калі тут ужо быў забаронены ордэн езуітаў. У прынцыпе сваёй сістэмы адукацыі піяры шмат пераняпі менавіта ад езуітаў. Калегіум піяраў працаваў у Шчучыне з 1718 г. За час сваёй дзейнасці ён зазнаў некалькі рэфармаванняў, пакуль не быў зачынены ў 1832 г.

Асяродак быў фундаваны ў 1726 г. полацкім войскім Глябіцкім-Юзафовічам. Мясцовы калегіум адносіўся да Літоўскай правінцыі ордэна і быў адным з самых значных. Некаторы час тут быў навіцыят, дзе выкладалі нават усходнія мовы. Касцёл св. Тарэзы першай паловы XIX ст., які ўпрыгожвае горад і сёння, быў пабудаваны па фундацыі князя Ксаверы Друцкага-Любецкага якраз пры кляштары піяраў. Менавіта тут вучыўся знакаміты Ігнат Дамейка, які пазней стане нацыянальным героем Чылі. Выкладала і навучалася тут нямала іншых выдатных асоб — Мацей Догель, Казімір Нарбут, Ануфры Петрашкевіч, Анёл Доўгірд. Асобна варта згадаць таксама прозвішча асветніка-дабрачынца Якуба Фалькоўскага, які нарадзіўся на Беластоцкай зямлі. Ён пэўны час быў рэктарам Шчучынскай піярскай школы і менавіта ён стаў заснавальнікам навучання глуханямых дзяцей мове жэстаў.

Пры піярах горад мог пахваліцца сваім батанічным садам, заклаў які ксёндз Станіслаў Юндзіл. У мясцовым дэндрарыі, пад які быў адведзены адмысловы зямельны надзел, вырошчвалася больш 500 відаў раслін. Сучаснікі адзначалі, што шчучынскі батанічны сад быў нават лепшым за гарадзенскі. Стварылі піяры і кляштарную бібліятэку, дзе былі таксама разнастайныя матэматычныя і фізічныя прылады. Гонарам шчучынцаў была і прэзентабельная аптэка, збудаваная ў стылі барока. Мясцовыя краязнаўцы выявілі, што ў ёй прадавалася ажно 821 найменне лекавых сродкаў.

Сённяшні Шчучын не можа пахваліцца нейкімі асаблівымі дасягненнямі. Горад паблізу трасы Гродна — Мінск так і застаецца на ўзбочыне грамадскага і культурнага жыцця. З-за нядбайнасці мясцовых і абласных кіраўнікоў не адная ацелася адметны палац другой паловы XVIII ст. Некалі ён быў пабудаваны паводле праекта архітэктара дэ Фленэрса ў тым самым юндзілаўскім парку, быў уладаннем роду князёў Друцкіх-Любецкіх. Размовы пра рэстаўрацыю ідуць даўно, але справа пасоўваецца надзвычай марудна. Шчучын, як і многія іншыя беларускія гарады, нібы ў стане летаргіі.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Аб справе фурманоў у Седльцах

**Матэвуш ГАЎРЫЛЮК**

У Седльцах Гарадская рада прыняла рашэнне аб прысваенні аднаму з кругавых скрыжаванняў імя „Праклятых жаўнераў”. Гэтая справа выклікала шмат эмоцый, паколькі дэпутат Адам Бобрык з Саюза левых дэмакратаў звярнуў увагу на той факт, што сярод змагароў супраць тагачаснай сістэмы былі як прыхільнікі будовы іншага ладу ў Польшчы, так і тыя, чые метады і дзеянні выклікаюць абурэнне. Ён звярнуў увагу, між іншым, на забойства 79 праваслаўных асоб беларускай нацыянальнасці, у тым ліку 30 фурманоў, учыненае атрадам „Бурага” на тэрыторыі Бельскага павета ў перыядзе з 29 студзеня да 2 лютага 1946 года. Ён нагадаў, што Камісія для судовага праследу злачынстваў супраць польскага народа ў Беластоку выявіла, што гэтае трагічнае здарэнне мае ўсе прыкметы генацыду і „нельга таго, што адбылося, апраўдаць барацьбой за незалежнае існаванне польскай дзяржавы”. Ён таксама звярнуў увагу на пацыфікацыйныя дзеянні ў вёсках Зані, Шпакі, Залешаны, Вулька-Выганоўская, Патока, якія адбыліся на глебе этнічнай і рэлігійнай нецярпімасці. Ён у заключэнні сказаў: „Я схіляю галаву нізка перад усімі, хто пацярпеў у тыя цяжкія часы і думаю, што ўлічваючы кантэкст гістарычных падзей, варта прысвойваць такія імёны, якія будуць ушаноўваць тых, хто ў розны спосаб змагаўся за Польшчу, і адначасна будуць яднаць грамадства. Такой кампрамісны назвай лічу Партызанскае, — сказаў Адам Бобрык. Рашуча за назвай „Праклятых жаўнераў” выказаліся дэпутаты Права і справядлівасці. Прэзідэнт горада Войцэх Кудэльскі сцвярджаў: „Гэтыя людзі цярпелі пераслед на працягу многіх гадоў, у стане крайняй дэпрэсіі хаваліся і галадалі. А калі самі выявіліся, іх забівалі. Гэта былі пакуты і катарга. Трэба аддаць належнае тым, хто ў гэты цяжкі час меў смеласць сказаць «не»”. Эмоцыі спрабаваў астудзіць дэпутат ад Грамадзянскай платформы Яцэк Гарбачэўскі. Ён заявіў, што каб пазбегнуць такіх спрэчак, добра было б правесці грамадскія кансультацыі аб назвах вуліц, плошчаў і іншых састаўных частак горада. Канчаткова рашэнне было прынята шляхам галасавання дэпутатамі ПіС, ГП і Сядлецкага самаўрадавага таварыства.

# Як даехаць у Саўляны

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

Лінію мелі адкрыць 1 студзеня г.г., затым адклалі на месяц і аўтобусы гарадской камунікацыі мелі ездзіць у Супрасль ад 1 лютага. Лінія 111 рушыла 1 сакавіка.

Я два-тры разы пісаў пра цяжкасці з даездам ад цэнтра Беластока ў Саўляны, якія ў 1,5 км ад горада. У студзені г.г. жыхары Саўлян сабралі пару соцень подпісаў пад заявай, каб аўтобус лініі 13 часцей ездзіў на наступным адрэзку: з канца вуліцы 27 Ліпеня (сюды 13-кі ездзяць колькі ўгодна і вяртаюцца) у Саўляны. Маглі б сюдою накіраваць аўтобус лініі 111. Хаця б два курсы. А ўжо першнаперш у суботу і нядзелю. У гэтыя выхадныя дні забралі тры курсы.

17 лютага г.г. солтыс Саўлян атрымаў адказ супрасльскага бурмістра ў гэтай справе: „У адказ на заяву жыхароў вёсак Саўлян, Каракуль і Агароднічак наконт пашырэння курсавання новаўзнікаючага маршруту лініі 111, спалучаючай Беласток з Супраслю на ахапленне ў ім праезду аўтобусаў вёскамі Агароднічкі, Каракулі і Саўляны, інфармуем: Праектаваная лінія 111 з'яўляецца ў фазе пагадненняў з управай Беластоцкай гарадской камунікацыі (БГК) і мае замяніць дзейнічаючую цяпер лінію № 3, спалучаючую Беласток з Агароднічкамі. Цяпер управа БГК вядзе дзеянні па стварэнні III зоны, што дасць магчымасць пуску ў рух такога маршруту. (...). З момантам пуску ў рух лініі 111 ваш пастулат трапіць пад дыскусію Гарадской рады, а наступным чынам прыняты пад увагу Дырэкцыяй БГК. Праўдзенне праз вашы мясцовасці маршруту 111 залежыць таксама ад завяршэння новай кальцавой дарогі (у абшары вуліцы 27 Ліпеня). Бурмістру Супрасля залежыць на паправе камунікацыі паміж сталіцай гміны і сялэцтвамі, асабліва калі гаворка пра даезд у школы, установы, амбулаторыі, царкву і касцёл (...).”

Жыхары Саўлян ездзяць у Супрасль праз... Беласток. З канца горада ў сваю вёску вельмі часта ходзяць пехатой. Да таго ходзяць абочынамі рухлівай дарогі, якія зімою занесены снегам. Рызыкуючы жыццём, некаторыя ідуць па праезджай частцы дарогі. Няма тут ні веласіпеднай дарожкі, ні кавалка тратуара.

# Рэзалюцыя Сейма Польшчы па Беларусі прынятая 2 сакавіка 2012 г.

*— Цяжкая грамадска-палітычная сітуацыя ў Беларусі, а перадусім хваля палітычных рэпрэсій, якая прайшла па Беларусі пасля сфальшаваных прэзідэнцкіх выбараў у 2010 годзе, патрабуе салідарнасці ўсіх еўрапейскіх краінаў. Мы, дэпатуты Сейма Польшчы, патрабуем неадкладнага вызвалення палітвязняў: Алеся Бяляцкага, Мікалая Аўтуховіча, Андрэя Саннікава, Мікалая Статкевіча, Зміцера Бандарэнкі, Паўла Севярынца, Зміцера Дашкевіча, Эдуарда Лобава, Сяргея Каваленкі, Мікалая Дзядка, Ігара Аліневіча, Аляксандра Францкевіча, Яўгена Васьковіча, Арцёма Пракапенкі і Паўла Сырамалотава. Звяртаемся да парламентаў еўрапейскіх краінаў Рады Еўропы з заклікам распачаць актыўныя дзеянні на карысць беларускай грамадскасці, грамадзянскай супольнасці і працэсу дэмакратызацыі Беларусі, а таксама ўзмацненя еўрапейскай пазіцыі да рэжыму Лукашэнкі. Заклікаем падтрымаць уручэнне Нобелеўскай узнагароды Алесю Бяляцкаму, абаронцу правоў чалавека ў Беларусі. Сейм Польшчы выказвае падзяку парламентарыям усіх еўрапейскіх краінаў Рады Еўропы, якія падтрымалі кандыдатуру Алеся Бяляцкага. Заклікаю таксама да далейшай актыўнасці ў гэтай справе.*

# Адгададанка

## Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — іспанскую пагаворку.

1. крывая лінія ў выглядзе яйка = 8 _ 5 _ 6 _ 7 _;
2. наесца ён на Юр'я травіцы, як на Грамніцы певень нап'ецца вадзіцы = 10 _ 13 _ 18 _;
3. група ўючных жывёл, якія па пустыні або па стэпе перавозяць грузы і людзей = 14 _ 15 _ 16 _ 17 _ 1 _ 2 _ 12 _;
4. акцёр, які іграе сродкамі мімікі, без слоў = 20 _ 11 _ 9 _;
5. ежа = 19 _ 3 _ 4 _.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| | | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 6 нумара**

Палын, род, Быкаў, авёс, ял, стадыён, Пімен, Дэлі, Кіеў, галаварэз, малачай, Малаві, імя, „Іж”, Дунай, Об, Рым, два, якут, Аід, хан, пі, рынг, інфармацыя, Іпуць, знічка, піва, морж, вымя, шум, ампір, руіна, смех, Кракаў, бульба, дзед, Каін.

Рашэнне: **Гляджу на ўсё вачамі маладымі, і гнеўнымі, і добрымі ўдвая, каханнне і прынізіць, і узніме, пакуль у ім жыве душа мая**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** і **Міхалу Байко** з Беластока.

# 11.03 — 18.03

**(22.03. — 20.04.)** Каля 12.03. не кідайся на глыбокую ваду, бо шмат спраў складзецца інакш, чым спадзяешся. Будзеш прымушаны абдумаць свае дзеянні і змяніць планы. На працы можаш выклікаць захапленне, але і... страх, бо можаш паказацца з найлепшага ды і найгоршага боку. Шалёны тэмп жыцця можа пашкодзіць тваіму здароўю; калі што — бяжы да лекара!

**(21.04. — 21.05.)** Заваляць цябе работай! Гучна не паскардзішся, бо шмат што можаш страціць. Не дазваляй толькі паўчацца маладшым і менш дасведчаным супрацоўнікам — хай ведаюць сваё месца! У пачуццях не чакай, а пачні дзейнічаць.

**(22.05. — 22.06.)** Лёгка даб'ешся кожнай мэты. Добрая псіхічная форма ўтрымае цябе ў неблагім здароўі, хаця дбай аб свой страўнік. Будзеш упартым і патрабавальным партнёрам. Адзінокія Блізняты могуць вельмі моцна закахацца!

**(23.06. — 23.07.)** Найлепш працаваць табе ў калектыве, асабліва калі шэфам з'яўляецца жанчына. Калі хочаш змяніць напрамак дзейнасці, адважна прымеш новыя выклікі. Калі трэба табе лячыцца, пакарыстайся альтэрнатыўнымі метадамі. Думай пазітыўна! А грошы ёсць на тое, каб іх выдаваць!

**(24.07. — 23.08.)** Канчай незавершаныя справы. Крыху слабавата, негарманічна ў пары. Нечаканая вестка ад кагосьці з сям'і. Запрасі да сябе даўно нябачаныя асобы. Маеш нос да інтарэсаў; мо выстартуй з уласным бізнесам (дасканалая дата — перад 12.03.). Не адкладвай планаванага выезду, бо чакае цябе шмат атракцыёнаў (адно што можа цябе патурбаваць нейкая хвароба); глытай вітаміны!

**(24.08. — 23.09.)** Поспехі на працы; будзеш спраўны, удачлівы, баявіты. Перашкоды цябе толькі матывуюць. Веды самі ўвойдуць табе ў галаву. Зззяеш на большым форуме. Ты цяпер узор гаспадарлівасці. Можаш знайсці працу. Форма ненайлепшая, але дасі рады!

**(24.09. — 23.10.)** 12-16.03. асабліва самотным Шалям спрыяе Венера! Чакаюць цябе вялікія змены дома. Пры пакупках абдумвай кожны грошык. На працы з поспехам можаш пацягнуць за сабой іншых; можаце разам шмат зрабіць. Як найдалей трымайся ад ныцікаў, зайздроснікаў і буркуноў; шкада часу, каб з імі грызціся.

**(24.10. — 22.11.)** Аж да 20.03. зоркі прыносяць табе шчасце і баявітасць. Будзеш дзейнічаць з размахам, здабываючы ўсё аб чым марыш. Агромная энергія паможа табе здабыць кожную мэту (на вялікі заробак, аднак, не разлічвай). Маеш шанц пазбыцца благіх звычак — п'янства, абжорства, нікацінізму...

**(23.11. — 22.12.)** Шалёныя рандэву і вялікія фінансавыя поспехі! Добрая кан'юнктура дазволіць табе праверыцца ў бізнесе, даспееш да рашэння, якое будзе пераломным для тваёй кар'еры. Будзь спантанны, творчы, смела ідзі ўперад! 10-16.03. добры час, каб узяць пазыку, наладзіць новае знаёмства, прызнацца ў каханні, павянчацца.

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш вельмі паслядоўны ў рэалізацыі сваіх планаў; поспех маеш гарантаваны (не ўсім гэта спадабаецца!). Хаця лепш не разлічвай на „мураваныя грошы”, бо могуць яны прыйсці пазней. У пары магчымыя пару „ціхіх дзён”. У другой палове месяца зможаш фундануць сабе штосьці рэдкае.

**(21.01. — 19.02.)** Можа трохі пабылатацца на працы — нічога не папраўляй, не ўключайся, стой збоку. Будзь пунктуальны, бо можаш праваронiць важную справу. З 15-17.03. добры час на працэдуры на целе. 16 (да 20.03.) пакажаш сябе з як найлепшага боку; добры настрой, відны выгляд.

**(20.02. — 21.03.)** Многа сілы, трываласці і мілых сюрпрызаў ад лёсу (да 20.03.). Працуй! І не дзяры нос уверх! Ад некаторых планаў трэба будзе адмовіцца, а некаторыя салідна прыспешыць, бо якраз паявіцца шанц адзін на мільён! Будзеш мець вялікія карысці і задавальненне.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.

Зараз ахвотна вяртаемся да традыцый продкаў, якія тыя захоўвалі ў час святкаванняў, штодзённай працы і сямейных урачыстасцей. У час фальклорных аглядаў паказваюцца вясельныя і хрысцінныя абрады, прэзентуюцца даўнія песні, сцэнкі прадзення кудзелі або квашання капусты. Удала прэзентуецца на сцэне таксама „Багаты вечар”, ці калядаванне, але не спаткаўся я яшчэ з прэзентацыяй абраду „Масленіцы”. Старэйшыя суразмоўцы памятаюць, як у некаторых вёсках яшчэ да вайны ў масленічны тыдзень моладзь каталася на санках і спявала песні. Запусты з выпіўкай і танцамі ў асноўным ладзіліся тады яшчэ ў мясапусную нядзелю. З даўняй „Масленіцы” доўга захоўвалася, а зараз нават і аднаўляецца, традыцыя спажывання ў сырапусны тыдзень большай чым звычайна колькасці страў з выкарыстаннем малака, сыроў, масла і яек, у тым ліку традыцыйных усходнеславянскіх бліноў, варэнікаў, піражкоў.

# Масленіца ў Чыжах

Тэкст і фота
Аляксея МАРОЗА

У Комплексе школ у Чыжах 24 лютага другі раз прыпомнілі вучням багаты абрад „Масленіцы”, з падзелам на гульні ў кожны дзень масленічнага тыдня. Мерапрыемства падрыхтаванае было пад наглядам настаўніц беларускай мовы Валянціны Андрасюк і Анны Лаеўскай. Вучні і прысутныя настаўнікі мелі магчымасць даволі дэталёва пазнаёміцца з усходнеславянскім гуляннем, вытокі якога сягаюць паганскіх часоў, калі нашыя продкі развіталіся з зімой і віталі вясну. З прыходам хрысціянства ў Русь гэтыя гульні былі прымеркаваныя да сырапуснага тыдня.

— З абрадам „Масленіцы” я спатыкалася ў сваёй роднай вёсцы Агародніках, што непадалёк ад Бельска-Падляшскага, калі яшчэ была дзіцём. У апошнюю суботу перад Вялікім постам мае бацькі і іх равеснікі ладзілі ў святліцы гасцяванне і танцы, а гулянне называлі „Маслена”. Мы, дзеці, спачатку бегалі па святліцы, а пасля адводзілі нас дамоў. У апошні тыдзень перад постам рыхтавалі пончыкі і аладкі, а раней нават і бліны пяклі. Калі я ў 1996 годзе пачала працаваць у школе ў Чыжах, рашылася наладзіць вучням „Масленіцу”, але не была яна так багатай, як сённяшняя. Другі раз мы наладзілі масленічнае мерапрыемства падобнае да сённяшняга некалькі гадоў таму, разам з тадышняй настаўніцай беларускай мовы Верай Флёрчук, — сказала настаўніца Валянціна Андрасюк, аўтарка сцэнарыя і вядучая гулянне.

Мерапрыемства адкрыў дырэктар школы Міраслаў Пяткевіч, заахвочваючы вучняў прымаць актыўны ўдзел у традыцыйных гульнях продкаў. Старшынстваваў ён конкурснай камісіі, а пасля падзякаваў бацькам за падрыхтоўку масленічнага пачастунку. Гімнастычная зала, у якой праходзіла мерапрыемства, была ўпрыгожана старымі вышыванымі ручнікамі і макаткамі. Былі развешаны таксама макет старой хаты і даўнія капы, што ствარала адпаведны антураж. У даўнюю вопратку пераапрануты былі героі сцэнкі, якая ставілася на беларускай мове.

— Вучні найлепш вучацца даўнім традыцыям шляхам гульні. Калі прымалі ўдзел у „Масленіцы”, ці „Куцці”, наладжанай два месяцы таму назад, жылі даўнімі абрадамі і гэтага не замесцім нават самымі цікавымі аповедамі аб жыцці ў мінулым, — сказаў дырэктар Міраслаў Пяткевіч.

— Вось дачакаліся з вамі вясёлай *масленкі, масленіцы* з блінамі, маслам, пончыкамі і аладкамі, — гэтымі словамі настаўніца Валянціна Андрасюк распачала асноўную частку мерапрыемства і паінфармавала вучняў, што першы дзень „Масленіцы” называўся „стрэчаннем”, ці інакш кажучы сустрэчай *масленкі*.

Мерапрыемства мела характар спаборніцтва вучняў IV-VI класаў. Яго ўдзельнікі знаёміліся з гульнямі і заняткамі перыяду „Масленіцы”. Спачатку вучням трэба было прывітаць *масленку* і дзеля гэтага маладыя людзі з кожнага класа разам са сваімі настаўніцамі гаварылі



Вучні пераапраналіся таксама ў старую вопратку (у спартыўнай зале красаваліся старыя ручнікі і капы)

прымаўкі характэрныя для масленічнага перыяду, а пасля разгадвалі загадкі.

— Другі дзень „Масленіцы” называўся „зайгрышы” і тады каталіся з горак, каб рос доўгі лён. Вось і мы зараз вызначым у якіх гаспадароў вырасце ў гэтым годзе лепшы лён, — працягвала вядучая, спадарыня Валянціна.

У час чарговага спаборніцтва школьныя каманды плялі касу з ільну. Выйграла тая, якая ў вызначаным часе спляла найпрыгажэйшую касу. Пераможцы



Супольнае гулянне закончылася масленічным пачастункам (вучні IV класа)

могуць спадзявацца ў надыходзячым годзе высокага ільну і добрага ўраджаю.

— У час нашага мерапрыемства адбываецца інтэграцыя моладзі і настаўнікаў на глебе нашых традыцый. Мае вучні вельмі ахвотныя да спаборніцтваў і з задавальненнем рыхтаваліся да сённяшняга мерапрыемства, — заявіла выхавацелька V класа і заадно настаўніца беларускай мовы Галіна Скепка.

— Мы ўжо звыкліся, што кожны год паказваем у час мерапрыемстваў нашыя абрады. Ладзілі „Куццю”, „Шчодры вечар”, а цяпер „Масленіцу” арганізуем. Вучні ж павінны ведаць нашыя традыцыі. Наш войт Юрый Васілюк прыхільна ставіцца да нашых прапаноў і выдзяляе на іх арганізацыю сродкі, — гаварыла настаўніца Анна Лаеўская, выхавацелька VI класа.

— Бліны — галоўны пачастунак на „Масленіцу”, таму што яны вельмі падобныя да сонца, якому людзі вельмі рады пасля доўгай зімы, — гаварыла Валянціна Андрасюк і дадала, што ў трэці дзень цешчы запрашалі да сябе ў госці зяцёў. Вучні адгадвалі колькі бліноў падрыхтавалі на *масленку* і навыперадкі пілі малако праз саломінку.

Чацвёрты дзень „Масленіцы” называўся „Дзень святога Уласа” і тады хадзілі ў лазню, — даведаліся вучні. Паколькі ў лазнях мыліся і парыліся з дапамогай *венікаў*, вучням трэба было з бярозавых галінак звязаць венікі. Выйгралі тыя хлопцы, якія выканалі ў назначаным часе найпрыгажэйшы венік.

Пяты дзень масленічнага перыяду называўся „Цешчыны вячоркі” і ў гэты дзень зяці запрашалі цешчаў на вячоркі.

— Трэба ж было нечым пачаставаць цешчу. А чым частаваць, як не блінамі? — гаварыла спадарыня Андрасюк.

Вучням з завязанымі вачыма трэба было навыперадкі знайсці крэсла і адзін раз паставіць патэльню на крэсле, а другі раз пад крэслам, быццам першы раз хлопцы пяклі бліны на пліце, а другі раз у печы. Вучні таксама навыперадкі елі *пампушкі* і папівалі іх кампотам, а пасля разам са сваімі выхавацельніцамі вадзілі карагоды.

— Цікавая формула сённяшняга мерапрыемства і гульні таксама адмысловыя. Хіба самым цікавым спаборніцтвам было спажыванне *пампушкаў* на час. Варта даведацца, як калісь адзначалі „Масленіцу”, бо ў нашых вёсках ужо гэтага не ўбачым. Аднак у нашай сям'і ў сырапусны тыдзень спажываем яшчэ сыр і мама рыхтуе пячэнне з сырам, — сказала Ася Андраюк з Гукавіч.

На завяршэнне гульняў вучні з настаўнікамі спасляліся на традыцыю прабачальнай нядзелі, якая завяршала масленічны тыдзень.

„Прабач, калі саграшыў перад табой справай, ці мовай”, — напаміла вядучая, так як калісь прасілі прабачэння нашыя продкі, і прапанавала прытрымлівацца даўняй традыцыі. Відаць было, што гульні падабаюцца вучням, якія ахвотна прыступалі да чарговых масленічных спаборніцтваў. На гэты рыз пераможцам не дапісваліся балы, толькі камісія ўручала цукеркі. Пасля падлікаў аказалася, што першае месца заняў VI клас з 21 цукеркам, другое — V клас з 18 цукеркамі і трэцяе — IV клас з 17 цукеркамі. Малодшыя вучні змагаліся заўзята і мала саступілі сваім старэйшым сябрам. Дырэктар уручыў пераможцам падарункі, але найважнейшай справай была супольная гульня пад наглядам класных выхавацелек — Галены Кляпацкай (IV клас), Галіны Скепка (V клас), Анны Лаеўскай (VI клас) і школьнай бібліятэкаркі Хрысціні Нікалаюк. „Масленіца” закончылася супольным спажываннем пірожных вырабаў, сярод якіх былі, між іншым, спецыяльна падрыхтаваныя бацькамі *пампушкі*. Вучні сказалі мне, што ў вёсках Чыжоўскай гміны людзі яшчэ адзначаюць сырапусны тыдзень, але пра абрад „Масленіцы” даведаліся толькі ў час школьнага мерапрыемства.

— Цікава было пазнаёміцца з даўнім абрадам. Нам найбольш падабалася рабіць венікі, але і ўсё іншае таксама было цікавае. Мы рады, што занялі першае месца і добра гулялі, — адзначылі Адам Анджэюк, Данель Астапчук і Дам'ян Ігнацюк, якія пасля гульняў засталіся прыбіраць гімнастычную залу.

Усе вучні Комплексу школ у Чыжах ходзяць на заняткі беларускай мовы. Дырэктар Міраслаў Пяткевіч сказаў, што вялікае зацікаўленне неабавязковым прадметам у чыжоўскай школе вядзецца здаўна. Раней роднай мове вучыліся бацькі сённяшніх вучняў і таму запісалі яны на ўрокі беларускай мовы сваіх дзетак, калі тыя паступалі ў першы клас падставовай школы. Другі раз вучні прыносяць заяўкі ад бацькоў у справе запісання іх на ўрокі роднай мовы ў першым класе гімназіі. І нават у падлеткавым узросце вучні з Чыжоў і наваколля не адмаўляюцца ад урокаў беларускай мовы. У гэтым годзе ажно 35 дзетак з падставовай школы прыступіла да конкурсу „Роднае слова”, а чыжоўскія гімназісты прымалі ўдзел у Конкурсе беларускай гавэнды.

— Мы стараемся зацікавіць дзетак і моладзь вывучэннем роднай мовы, арганізуем конкурсы, экскурсіі, стараемся як мага найбольш цікава весці ўрокі, — расказалі настаўніцы беларускай мовы Валянціна Андрасюк і Анна Лаеўская.

ISSN 0546-1960